

Сустрэча ў Чыжах→3

# Ніва


Новая кніга Гедройца→8

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 47 (2949) Год LVII | Беласток, 18 лістапада 2012 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Каля Кузніцы

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

**У акне барака, які да нядаўна выконваў ролю сакольскага аўтобуснага вакзала, картка з паведамленнем, што каса і пачакальня закрыты ў вольныя ад працы дні. Але картка тая сабе, а жыццё сабе — аб'ект закрыты і ў будзённыя дні. Пачакальня знаходзіцца навонкі будыніны, пад нябесным купалам, дзе пасажыры маюць магчымасць не толькі *dotlenić się*, але і падстудзіцца ў халодны час пад усебакова прадуўнымі паветкамі.**


Двор у Паўловічах з 1610 года



На ранішні аўтобус, што адпраўляецца ў Сідру цераз Залессе, апрача мяне сядае яшчэ адзін мужчына, які разам са мною пакідае машыну на прыпынку Паўловічы; у далейшую дарогу шафёр паехаў ужо сам. А яшчэ два ці тры гады таму на згаданым прыпынку выходзілі з таго ж аўтобуса тры ці чатыры жанчынкі, што настаўнічалі ў тамашняй школе. Але зараз няма ўжо школы ў Паўловічах...

Паўловіцкая школа займала адзін з найстарэйшых мураваных будынкаў на нашых землях, які быў узведзены ў 1610 годзе. А яшчэ раней стаяў там драўляны дворскі будынак... У пачатку XVI стагоддзя ў Сідры пасяляецца Грынь Валовіч, які мае наглядаць за навакольнымі каралеўскімі пушчамі. Сваю маёмасць раздзяляе ён паміж траіх сыноў. Адзін з іх, Іван, пасяляецца на месцы, якое называюць Паўловічамі, мабыць ад імя ягонага цесця. Унук Івана, Павел Валовіч, падскарбі Вялікага Княства Літоўскага, узводзіць у Паўловічах згаданы мураваны двухпавярховы двор. Пазней мяняюцца ўласнікі двара, уводзячы ў галоўны будынак свае карэктуры ды дабудоўваючы ў яго наваколлі іншыя збудаванні. Такім чынам у канцы XVIII стагоддзя з поўначы і поўдня Валовічавага збудавання чарговыя ўласнікі Паўловіч — Даўнаровічы — дабудоўваюць дзве прыбудовы ў ролі флігеляў палаца, з усходу з'яўляецца абшырны дзядзінец, а з захаду парк, які выходзіць на сад у даліне рэчкі Сідры... Чарговага ўласніка маёмасці забілі вызваленыя ад паншчыны мужыкі. Дзеля аховы паноў паяўляецца там царскае войска і для яго ў суседстве палаца ўзводзяцца казармы і стайні. Царскі палкоўнік Кулакоўскі жэніцца з чарговай спадкаемніцай двара Альжбетай, якая ў 1910 годзе праводзіць грунтоўнае абнаўленне палаца. Чарговым уласнікам маёнтка становіцца іх зяць, доктар Балгавіцінаў, які пасля Другой сусветнай вайны перасяліўся ў Кратошын, а паколькі меў ён рэнамэ вельмі добрага лекара, дык нават туды, за паўтысячы кіламетраў, ездзілі да яго мясцовыя хворыя за паратункам...

А паўловіцкі двор, які выстаяў больш трох стагоддзяў, у час вайны атрымаў вельмі сур'ёзныя траўмы, якія паставілі яго на грані выжывання. У выніку зямельнай рэформы зямлю раздзялілі, сад быў высечаны пад пашы, казармы і прыбудовы знесены ды і ад самога палаца асталіся толькі голыя сцены, купленыя пасля мясцовым селянінам, які прыбіраўся і іх раскідаць. Але ўмяшаўся ў гэты разгар сын згаданага палкоўніка, прафесар Варшаўскай політэхнікі Павел Кулакоўскі, які выхадайнічаў у Міністэрстве культуры ахову гэтага помніка мінуўшчыны і перадачу яго ваяводскаму кансерватару даўніны, які ў 1958-1966 гг. зрэканструяваў палац з прызначэннем пад школу. У будынак была ўмуравана ахвяравальная табліца Паўла Валовіча, што захоўвалася ў касцёле ў Залессі, з лацінскім зместам: „Павел Валовіч сабе і любым удзячным спадкаемцам пабудаваў у 1610 Панскім годзе. Чаго жадаеш сабе, тое рабі і іншым". Зараз, апрача галоўнага палаца, побач яго стаіць адна, паўднёвая, пустая прыбудова, у якой былі кватараваліся настаўнікі, а за ёю пустая стайня; з паўночнага боку руіны іншых збудаванняў. А навонкі дворскай агароджы, побач расходных дарог, пусты будынак вясковай крамы, пусты будынак пункту прыёму малака, аўтобусная „пачакальня" з бетонных пустакоў...

Няцэлы кіламетр на ўсход ад паўловіцкага двара распаложана вёска Меляшкоўцы. Гэта працяглая вуліцоўка даўжынёю каля паўтара кіламетра. Па сутнасці складаюць яе дзве часткі: Меляшкоўцы-Паўловіцкія ад поўдня і Меляшкоўцы-Залесенскія ад поўначы; падзел гэты, мабыць, пайшоў па прыгоннай падлегласці сялян паўловіцкаму двару і залесенскаму касцёлу. Пры перасячэнні асфальтоўкі з Кузніцы ў Сідру з вясковай брукаванай вуліцай крыж з устаўляванай дваццаць гадоў таму мемарыяльнай таблічай у гонар двух польскіх салдат, што загінулі ў 1920 годзе. Вулічнае палатно не надта раз'езджанае, а гэта абазначае, што гаспадаранне ў гэтай адносна вялікай вёсцы не надта размашыстае. Ды і хаты тут у пераважнай большасці традыцыйныя, драўляныя. Дзверы пажарнага „бляшака" застаўлены вялікай сметніцай у буйным пустазеллі...

У веснічках на адзін з панадворкаў пажылая жанчына разглядаецца, што дзеецца на вясковай вуліцы. Пытаю яе пра тамашнюю дэмаграфію. У Меляшкоўцах каля дваццаці абжытых хат, а ў тых хатах амаль адно старыя асталіся. Гадам раней тройку дзяцей забіраў аўтобус у кузніцкую гімназію. Дашкольнікаў у вёсцы няма. А калісь у вёсцы дзяцей было поўна. „Я сама, — кажа мая субяседніца, — выгадавала сямёра, а цяпер, на старасць, бяздзетнай асталася". У Паўловічах яна не вучылася, яшчэ тады там школы не было. Школа была ў Меляшкоўцах, у прыватных хатах. Бывала, дзяцей, што не надта засвоілі матэрыял, пакідалі пасля ўрокаў. То яны прасілі ў гаспадыні хлеба, а яна толькі скарынкі ім мела. А калі б у цяперашні час пакінуць вучняў пасля ўрокаў, — абурэецца жанчына, — дык яны ж адны другіх пагвалтавалі б; цяпер жа такое ў школе вучаць, пра што ў ейны час нават падумаць не было смеласці. Ну і абураецца ўсім тым, што паказваюць у нашым тэлебачанні. Вось у Амерыцы завяршыліся прэзідэнцкія выбары і галоўныя канкурэнты віншуюць сабе, дзякуюць. А ў нас нагу заміж рукі рады падаць саперніку — прыгадвае падзею семнаццацігадовай даўнасці.

З Меляшкоўцаў напраўляюся ў Даўгасельцы. Меншае палёў, прыбывае лесу. Грунтовая дарога з паўночнага канца Меляшкоўцаў выходзіць на сярэдзіну Даўгасельцаў, якія, згодна назве, працяглыя на два кіламетры. Але хат у вёсцы мала, ды і тыя немнагалікія, што захаваліся, прыгнятаюць сваім выглядам. Пра прысутнасць у іх жывых душ можна меркаваць па прысутнасці на панадворках сабак і катоў. Вось пустая хата, падвойная, з адмысловым вонкавым дэкорам. У адной палове вокны ў запушчанай шэрасці, у другой — крыху святлейшыя, але таксама ўжо пустыя. Сцены гаспадарчага будынка на тым жа панадворку застаўлены кастрамі гатовых дроў, нарыхтаванымі, каб яшчэ пажыць. Але іншыя месцы, па ранейшых панадворках, або абкошаны, або ўзараны. На пашы побач вуліцы пяць кароў. І панадворак у паўднёвым канцы Даўгасельцаў, дзе яшчэ захавалася гаспадаранне, дзе ёсць трактар, дзе сельскагаспадарчыя машыны, але тэхніка тая не размашыстая.

Побач вуліцы ў цэнтры Даўгасельцаў абярэжны валун з замацаваным на ім невялікім металічным усходнім крыжам. Такі ж сам крыж на валуне і з паўднёвага канца вёскі. Там яшчэ побач і крыж на цэментнай падставе, вывадны ў напрамку прыхадской Кузніцы, з надпісам „Спаси и сохрани".

Іду ў чарговую вёску, не надта адлеглыя ад Даўгасельцаў Візгі з бояззю, што ў той маленькай вёсцы можа ўжо быць зусім пуста. Але не — на пашы каля вёскі тры каровы. Перад вёскай масток з адпадаючых бетонных кадлубкаў, за ім цэментны ўсходні крыж. Зараз у вёсцы пяць хат, заходжу ў адну з іх; суправаджаюць мяне кот з небрахлівым сабакам. У хаце двух мужчын. Даведваюся ад іх, што зараз у Візгах абжыты тры хаты, у якіх жыве чатыры душы. А калісь у вёсцы было дваццаць сем хат, а ў кожнай з хат па шэсць-сем душ. Тыя хаты стаялі цесна, адна побач другой, бо вёска займала амаль столькі ж прасторы, што і цяпер. Многа моладзі было, нават забавы ладзілі. На пытанне, ці ў Візгах быў калгас, адказваюць, што не было, бо людзі не згадзіліся. Але быў пяць кіламетраў адгэтуль, у Міленкаўцах.

Не даходзячы да Візгаў, яшчэ па жвіроўцы з Даўгасельцаў у напрамку Кузніцы, было відаць каменныя рэшткі нейкага збудавання, а насупраць яго некалькі сажалак; падумалася мне тады, што там мог быць нейкі чарговы панскі двор. Але мае субяседнікі паведамілі, што даўно была там звычайная сялянская сядзіба, якая згарэла, а сажалкі насупраць былі выкапаны пазней, нейкіх пятнаццаць гадоў таму. Ды далей, можа кіламетр ад Візгаў у напрамку Кузніцы, таксама ледзь відаць з травы рэшткі нейкага склепа. Прырода непераможная і яна адваёўвае свае пазіцыі ў слабеючага вясковага насельніцтва.



# Свята без сэнсу

На аўтобусным прыпынку ў Гародні сустрэліся два знаёмыя. Усміхнуліся, прывіталіся і загаварылі пра ўсё. Адна тэма змяніла другую, і нарэшце дайшло і да амерыканскіх выбараў.

— А як ты лічыш, — цікавіцца адзін мужчына, — што для беларусаў лепш, каб перамог Абама ці Ромні?

— А для беларусаў гэта не мае аніякага значэння, — махнуў рукой другі.

— Як гэта не мае?! — здзівіўся першы. — Гэта для ўсяго свету мае значэнне, бо абіраецца самы магутны і ўплывовы чалавек на ўсёй планеце!

— Для ўсяго свету гэта мае значэнне, хто там пераможа, але не для нас, — стаяў на сваім другі, — бо ў нас перамагла кастрычніцкая рэвалюцыя.

Абодва ўсміхнуліся і адразу ж памаркотнелі. Больш ні пра што не размаўлялі. Маўчалі аж пакуль не прыехаў аўтобус.

А аўтобус доўга не ехаў. На выходныя аўтобусы ў Гародні ходзяць радзей. А быў акурат выходны. Дзень перамогі кастрычніцкай рэвалюцыі. У нас, насамрэч, гэта выходны. Свята. Чырвоны дзень календара. Толькі што канкрэтна трэба святкаваць і чаму гэта святкаваць трэба мала хто можа растлумачыць. Хай бы тыя, хто гэтую дату зрабіў святочнай і растлумачылі, ці хоць паспрабавалі растлумачыць. Нечым жа яны кіраваліся, вызначаючы гэты дзень святочным.

Падчас існавання Савецкага Саюза, калі гэтае свята было адным з галоўных, нейкая логіка ў тым прысутнічала. Гэтае свята было адным з падмуркаў усёй савецкай ідэалогіі. Жудасныя ахвяры і зламаныя чалавечыя лёсы, пакладзеныя ў імя ідэй сацыялізму, апраўдваліся савецкімі ідэолагамі як непазбежныя. Яны сцвярджалі, што праз гэтыя страты мы прыйшлі да найвялікшых дасягненняў, такіх як забарона эксплуатацыі чалавека чалавекам, адмена прыватнай уласнасці, больш раўнамернае размеркаванне матэрыяльных каштоўнасцей, іншыя падобныя рэчы, і самае галоўнае — пабудова ў нейкай там далёкай ці нават блізкай перспектыве камунізму, як найвышэйшай мадэлі існавання чалавечай супольнасці.

Зараз жа камунізму ніхто не будуе і будаваць не збіраецца. Кіруючая роля камуністычнай партыі зышла ў нябыт. Прыватная ўласнасць стала асновай развіцця эканомікі, а наёмная праца даўно ўжо не называецца эксплуатацыяй чалавека чалавекам. Усё, што звязанае з перамогай кастрычніцкай рэвалюцыі, даўно не з'яўляецца для беларускага грамадства і беларускага заканадаўства нейкай там каштоўнасцю. Дык чаму ж гэты дзень святочны? Чаму на цэнтральных плошчах беларускіх гарадоў паўсюдна стаяць помнікі Леніну? Якія ідэалагічныя функцыі яны зараз выконваюць?

Здаецца, аніякіх. Дык у чым сэнс іх існавання? Можа яны выконваюць нейкія магічныя функцыі? Ці можа яны каму здаюцца вельмі эстэтычнымі, што іх па сённяшні дзень мыюць, аднаўляюць, ахоўваюць, асабліва на гэтае свята.

Праўда, вядучыя дзяржаўных тэлеканалаў, ведаючы, што свой хлеб мусяць адпрацаваць, нешта там вельмі неперакана ўча спрабавалі распавесці пра гэты дзень. Але нават і ў іх нічога толкам не атрымалася. У асноўным аргументы зводзіліся да таго, што людзі мусяць ведаць сваю гісторыю і не адмаўляцца ад яе. Гэтыя аргументы сапраўды выглядалі даволі камічна, бо абстаўлялася гэта ўсё так, нібыта акрамя кастрычніцкай рэвалюцыі ў нас і гісторыі іншай няма. Ну, а калі параўнаць суадносіны помнікаў Леніну да іншых манументаў, то сапраўды так можна палічыць.

— Мама, а чаму сёння мне не трэба ў школу? Сёння ж не нядзеля, — пытаецца ў маці маленькі хлопчык.

— Таму што сёння свята, — адказвае матуля, цягнучы свайго сына за руку ў краму.

— А якое сёння свята? — хоча дакапацца да ісціны хлапчук.

Гэтае пытанне так збянтэжыла матулю, што яна нават спынілася на прыступках крамы і стала абдумваць свой адказ. А пасля, відаць канчаткова страціўшы надзею вытлумачыць свайму дзіцяці хоць якую больш-менш зразумелую версію, пацягнула яго далей, працадзіўшы праз зубы:

— Якое-якое. Звычайнае свята.

Вось так і жывём. Нешта святкуем, а што, то нават уласным дзецям растлумачыць не ў стане. Затое мы з'яўляемся хіба што адзіным народам на свеце, якому няма аніякай розніцы, хто будзе амерыканскім прэзідэнтам.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Фармаванне формы



Бывае, што праўда нічога не вартая і бывае, што мана, абернутая навыварат, аказваецца быць чыстай як золата. Шмат залежыць ад чалавечых намераў і кантэксту. Якія намеры кіравалі Аляксандрам Лукашэнкам, калі публічна пахваліўся тым, што не прыняў хабару вартасцю 5 мільярдаў долараў (!) узамен за карысці ў прыватызацыі аднаго з найбольшых у свеце прадпрыемстваў, якое перапрацоўвае калійныя ўгнаенні — невядома. Гэтым хабарнікам быў расійскі алігарх, звязаны з Пуцінскай уладай. Нават калі за гэтай правакацыяй хаваліся спецслужбы Расіі, дык тым больш трэба было адаслаць абэлтуса, вось так, энергічным выспяткам проста ў Маскву. Лукашэнка, аднак, паклаў па сабе вушы, на чым пацярпела ягонае баявітае эга. На жаль, калі дагараў ад сораму ў сваім прэзідэнцкім кабінеце, атрутная плётка аб падмочанай рэпутацыі беларускай дзяржавы прасачылася на мінскія вуліцы, атручваючы іх раз'ятранымі шэптамі. Неабходным для яе быў публічны рамонт. Найлепш было сказаць праўду, ды для Аляксандра Лукашэнкі праўда гэта рашуча замала. Таму паказаўся ён народу як сумленны і незалежны палітык, які ўмее зухавата справіцца са спакусай пагардлівай карупцыі. Была гэта самая сапраўдная праўда, мастацкая як тога рымскага сенатара. Папраўдзе не запярэчыла выяўленым фактам, але затое спрытна закрыла тыя, якія мелі прысароміць беларусаў.

Ужо тое, што хто-небудзь асмеліўся запрапанаваць хабар прэзідэнту дзяржавы паказвае, што яна трактуецца як бананавая рэспубліка! Калі кагосьці абурае гэтае параўнанне, няхай пачне выпростваць бананы і адчэпіцца ад мяне. Для парадку прыгадаю, што, паводле еўрасаюзнай дырэктывы, сапраўдны банан гэта крывы банан. Дарэчы, гэтая еўрасаюзная схільнасць да вызначання відавочнай відавочнасці проста невыносная. Ды відавочна ў нашым выраджаным свеце інакш быць не можа. Немагчыма яго зразумець без растлумачвання найпрасцейшых вызначэнняў іх паўторанымі вызначэннямі. Адтуль гэтае размнажэнне „відавочных відавочнасцей” ці „каштоўных каштоўнасцей” і г.д.

У Беларусі, якая ж не захоўвае еўрасаюзных стандартаў, відавочнай відавочнасцю з'яўляецца тое, што сапраўдная форма банана, як, дарэчы, і ўсяго іншага, залежыць ад прэзідэнта дзяржавы. Паколькі смак банана застанецца бананавым незалежна ад таго, ці будзе ён просты, закрыўлены ці звінуты ў крэндзельку, Аляксандр Лукашэнка выходзіць да слушнай прадпасылкі, што важнейшай ад ягонай формы з'яўляецца яго безупыннае фармаванне. Грамадзяне ж адобраць любую форму гэтага экзатычнага плода, абы толькі ў ім быў бананавы смак. Праблема, усё ж, у тым, што не хопіць ім ні на просты, ні крывы банан, ані нават на паўбанана. Бо праўда такая, што беларускае грамадства рэзка збяднела, а эканоміка Беларусі ледзь дыхае. Ды, барані Божа, у гэтым няма віны Лукашэнкі. І тут выяўляецца ў чым заключаецца фармаванне формы. Калі банан не можа быць крывы, дык і праўда не можа быць простай. Мастацтва нагінання рэальнасці да фактаў Аляксандр Лукашэнка авалодаў дасканала. Напрыклад, праўдай з'яўляецца тое, як ён заяўляе, што ў Беларусі няма апазіцыі. Дык куды яна падзелася? Такая праўда — Іудава. На яе відным аверсе паказваецца толькі праўда, а на нябачным рэверсе хаваецца... сапраўдная.

Публічнае прызнанне прэзідэнта Беларусі, што не спакусіў яго хабар, беспрэцэдэнтнае. Тым не менш спроба карумпаваць галаву дзяржавы абражае саму дзяржаву і яе грамадзян. Такая сітуацыя была б немагчымай у ніякай еўрапейскай краіне якая сябе паважае. Перш за ўсё таму, што ніхто не адважыўся б на такую нахабнасць. А таксама таму, што там такіх спраў не падмятаюць пад дыван.

Праўдай з'яўляецца тое, што маны ў нашым свеце маем зашмат, ды, з другога боку, сцвярджэнне, што праўды ніколі зашмат з'яўляецца паспалітай хлуснёй. Скажу так: праўды не можа быць больш чым трэба. Бо калі яе крышынка зашмат, пачынае яна папахваць хлуснёй, а калі яе трошкі замала, дык яна тады і з'яўляецца самой хлуснёй.

**Міраслаў ГРЫКА**

## Вачыма еўрапейца

# Прачніцеся!



Калі здаем гэты нумар „Нівы” ў друкарню, у сядзібе Падляшскай оперы і філармоніі (ПОіФ) пачынаецца сустрэча, прысвечаная хадайніцтвам Беластока больш чым год таму за званне Еўрапейскай сталіцы культуры (ЕСК) 2016 года з удзелам падляшскага сенатара і былога віцэ-прэзідэнта Беластока па культуры Тадэвуша Арлуковіча. Якраз ён, як намеснік прэзідэнта, назіраў за працэсам кандыдавання да гэтага звання, калі Беласток канкураваў з Торунню, Познанню, Лоддзю, Шчэцінам, Варшавай, Гданьскам, Катавіцамі, Люблінам і Вроцлавам. Пісаў я аб тым у „Вачах” м.інш. тады, калі сталіца Ніжняй Сілезіі перамагла канкурэнтаў. На працягу апошняга больш чым года з дзеянняў Беластока па хадайніцтве за ЕСК не засталося нічога і адважуся сказаць, што праца (вельмі ж сціплая), якая была выканана ў час саперніцтва з іншымі гарадскімі цэнтрамі ў гэтым плане, пайшла на змарнаванне, у адрозненні, напрыклад, ад Познані, Любліна, Катавіц ці Быдгашчы. Іншыя кандыдаты, хаця сапераніцтва таксама прайгралі, працягваюць г.зв. доўгатэрміновыя праекты, пачатыя пры нагодзе старту ў змаганні за званне.

У Беластоку ўжо ў момант, калі рашыліся на старт у конкурсе, не зрабілі практычна нічога па-за фактам самай заяўкі. Як сёння наракае Славамір Майсюшка, беластоцкі каардынатар задумы (фонд M.I.A.S.T.O), які дзейнічаў на грамадскіх пачатках ад імя тагачаснага прэзідэнта, у адрозненні ад іншых, на старанні не размеркавалі ніякіх асобных сродкаў, а фінансаваліся яны ў рамках бягучых выдаткаў дэпартаментаў гарадской управы ды гарадскіх культурных устаноў. Не ўзнік таксама асобны офіс па справах ЕСК, як ва ўсіх іншых гарадах, прыступіўшых да канкурэнцыі. Успамінаючы аб удзеле жыхароў, Славамір Майсюшка сёння адназначна сцвярджае, што такога не было з боку незгуртаваных беластачан. Тут дадае: „Не стала задумы, ды перважыла таксама своеасаблівая боязь перад адкрыццём, асабліва таму, што дасюль не было папраўдзе ніякага двухбаковага (горад — жыхары) досведу”. У іншых гарадах, незалежна ад пройгрышу, не пакінулі дзеянняў пачатых у час хадайніцтва за ЕСК. Офісы, якія ўзніклі ў іншых гарадах, рыхтуючыхся да ЕСК, уключылі ў працэс прыняцця рашэнняў гарадскога самаўрада (Быдгашч), або заснавалі незалежныя рады, якія маюць у нейкі спосаб ладзіцца з культурнай палітыкай горада і за ёю назіраць (Познань), або таксама працягваюць працу офіса, ператвараючы яго ў прадзюсерскае агенцтва важных мастацкіх падзей у горадзе (Катавіцы). Імпазантным прыкладам з'яўляецца Быдгашч, якая перакавала свой правал у праграму „Культура ў пабудове”. Яе вынікам быў Кангрэс культуры ў Быдгашчы і падпісаны тут „Пакт для культуры”. Падобныя рэгіянальныя кангрэсы сарганізавалі Лодзь і Познань. У Беластоку ўзнік — як сказалі арганізатары конкурсу — „сардэчны клімат супольнай працы і супольных задум”. З боку беластоцкіх Гарадской управы і Гарадской рады не было ніякага зацікаўлення, каб прыгледзецца таму, што з працай, укладзенай у хадайніцтва за ЕСК, зрабілі іншыя. Не ўдзельнічалі на працягу больш года нават у дэбатах, у час якіх прадстаўнікі гарадоў-змагароў задумваліся, напрыклад, над тым, „ці быць горадам культуры, ці культурным горадам”, а віцэ-прэзідэнт Тадэвуш Арлуковіч свае дзеянні засяродзіў на працы, звязанай з выконваннем сенатарскага мандата. Заадно ён, як і Славамір Майсюшка, прачнуліся ў апошні час, калі Вроцлаў — пераможная Еўрапейская сталіца культуры 2016 года — галоўным чынам, дзякуючы яе праграмнаму дырэктару Кшыштафу Чыжэўскаму (штодзень шэфу сейненскага Асяродка Пагранічча — мастацтваў, культур, народаў) рашыў уцягнуць Беласток і Люблін да дзеянняў у рамках ЕСК як частку дадатку (аплікацыі) званага „Усходняя вось культуры” (пісаў я аб гэтым восенню мінулага года пасля люблінскага Кангрэса культуры Усходняга партнёрства, на які махнулі рукою беластоцкія самаўрадавыя ўлады). Чаму мела служыць сустрэча сарганізаваная ў ПОіФ з удзелам сенатара Арлуковіча... на паўтара тыдня перад прыездам у Беласток дэлегацыі вроцлаўскай ЕСК — напішу праз тыдзень.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

**— Наш беларускі фальклор гэта песні, абрады, прымаўкі, прыказкі, — гаварылі ўдзельнікі XIX Асенніх сустрэч з беларускім фальклорам, якія 27 кастрычніка адбыліся ў святліцы ў Чыжах. Арганізатарам мерапрыемства выступілі войт Чыжоўскай гміны і Гмінны асяродак культуры. Старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік звярнуў увагу на святочную вопратку, якой у мінулым карысталіся нашы продкі. Гурт «Жэмэрва» са Студзіводаў, паказваючы вясельны абрад, выступіў менавіта у даўніх уборах з Бельшчыны.**



«Жэмэрва» паказала абрад адпраўлення маладой Насці да шлюбу

У гэтым годзе ў час асенняга мерапрыемства не пашанцавала з надвор'ем, бо ў суботу зіма напалохала восень. Выпала мнагавата снегу, які ўскладніў дарожны рух, а мацнаваты вецер не заахвочваў старэйшых выходзіць з хаты.

— Я на сваім аўтамабілі з летнімі шынамі хіба не даехаў бы на мерапрыемства, таму ўзяў жончыну машыну, у якой шыны зменены ўжо на зімовыя, — заявіў яшчэ да адкрыцця сустрэч чыжоўскі войт Юры Васілюк.

Першымі з беларускімі песнямі запрэзентаваліся бельскія белліцэісткі — Наталля Семянюк з Падрэчан Чыжоўскай гміны і Паўліна Гайко з Боцькаў, наймалодшыя ўдзельнікі сустрэч. Раней дзяўчаты выступалі ў дуэце на археалагічным фэсце ў Збучы.

— Добра нам супольна выступаць. Пачала я спяваць у калектыве «Лясная гавэнда» ў Пачатковай школе ў Чыжах, — сказала Наталля Семянюк.

— Культура займае важнае месца ў жыцці нашай гміны. Сённяшнія «Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам» з'яўляюцца падвядзеннем вынікаў культурнага жыцця ў гміне на працягу года і аглядам дзейнасці нашых аматарскіх калектываў. Мы — расспяваная нацыя. Нашая гмінная ўправа падтрымлівае мясцовыя вакальныя калектывы, якія працягваюць народныя традыцыі. «Асеннія сустрэчы» паказваюць, якое багацце фальклору захавалася ў нас. Папулярызацыя яго падтрымлівае таксама нацыянальную свядомасць нашага насельніцтва. На працягу года Гмінны асяродак культуры і Гмінная бібліятэка ў Чыжах ладзяць майстаркласы па фальклоры. Нам хацелася б рабіць яшчэ больш у галіне развіцця беларускай культуры ў гміне. З выкарыстаннем вонкавых сродкаў будзем старацца праяўляць новыя ініцыятывы, — сказаў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк і паінфармаваў аб гмінных інвестыцыях, між іншым аб перабудове і мадэрнізацыі ў апошнім годзе 5,7 кіламетра гмінных дарог.

На спатканне з беларускімі песнямі прыбылі, між іншым, мясцовыя радныя са старшынёй Гміннай рады Хрысцініяй Гаўрылюк, солтысы і гмінныя чыноўнікі. Сярод публікі найбольш было людзей пенсіённага ўзросту, якія фальклор памятаюць са сваёй моладасці. У святліцы сабраліся жыхары Чыжоў і навакольных вёсак, якія, нягледзячы на зімовае надвор'е, дабіраліся на сваіх аўтамабілях або на гмінным транспарце, які прывозіў калектывы на мерапрыемства.

— Усё мы перадумалі, каб нашыя «Асеннія сустрэчы» былі ўдалым мерапрыемствам, але не падумалі, што надвор'е нам так сапсуецца і прыйдзе зіма. Думаем, што выступленні калектываў будуць настолькі цікавымі, што кампенсуюць цяжкасці, прычыненыя зімовай аўрай. Апрача аўтэнтычнага фальклору будуць выступленні з апрацаваным фальклорам і больш сучаснымі беларускімі творамі. Будуць паказваць даўнія абрады, прымаўкі і прыказкі, — пералічваў дырэктар Гміннага асяродка культуры Юры Якімюк.

— Мы зараз на асенніх сустрэчах, за акном зіма, а мы тут у летняй атмасферы будзем спяваць таксама вясеннія песні, — гаварыў спявак з калектыву «Луна» з Беластока, які перад кожнай песняй стараўся пагаварыць з публікай.



Мерапрыемства ўдастоілі гмінныя ўлады

Удала запрэзентаваўся «Сямейны тэрцэт» сясцёр родам з Макаўкі, якія заспявалі апрацаваныя фальклорныя песні. Дзяўчаты выступаюць без дапамогі самаўрадаў і спонсараў, ходзяць на рэпетыцыі і выязджаюць на канцэрты з унутранай патрэбы спявання. З танцавальнай музыкай запрэзентаваўся вакальна-інструментальны калектыў «Метро» з Гайнаўкі, у якім выступаюць выпускнікі гайнаўскага белліцэя. Аддаюць яны перавагу перш за ўсё беларускай музыцы, іграюць на забавах, вяселлях, выступаюць на народных фэстах, між іншым з шэдэўрамі славутага беларускага калектыву «Дубіны», ці з вядомымі песнямі з рэпертуару калектыву «Маланка» з Бельска-Падляшскага.

— Толькі сёлета мы ўжо выступілі на звыш пяцідзесяці мерапрыемствах, а ў гэтым ліку на многіх беларускіх імпрэзах. Бывала, што выступалі нават у трох месцах у адзін дзень. Раней і на вяселлях ігралі, але зараз дастаткова нам выступаў на публічных імпрэзах. Каб зацікавіць публіку, стараемся рыхтаваць штораз то новы рэпертуар, — гаварыў Ян Снарскі, кіраўнік калектыву «Арт-Пронар» з Нарвы.

Вельмі ўдала вясельны абрад адпраўлення маладой Насці з Ласінкі да шлюбу паказала «Жэмэрва» са Студзіводаў. Абрад гэты, рэканструяваны на падставе матэрыялу, запісанага ў Ласінскім прыходзе, паказаны быў з дапамогай рэквізітаў, якія прывезлі самадзейнікі са Студзіводаў.

— Калі Насця ў нядзелю развітвалася з бацькамі, чакала яе невядомае ў сям'і мужа і таму рыхтавалася да шлюбу са страхам пра будучыню, — удакладніла кіраўнік «Жэмэрвы» Анна Фіёнік.

— Добра было б, каб у час прэзентацыі фальклору ўся публіка стала актыўным яго ўдзельнікам, сядаючы вакол выступаючых. Мы, напрыклад, з жыхарамі розных еўрапейскіх краін калядавалі ў Чыжах у 2010 годзе. Спачатку людзі былі ашарашаны, калі ўбачылі швейцарцаў, якія бегалі па вёсцы са званочкамі. Пасля мясцовыя таксама станавіліся ўдзельнікамі супольнага калядавання. Хацеў бы я яшчэ наладзіць тут калядаванне на Вадохрышча, у бліжэйшую зіму, — сказаў Дарафей Фіёнік.

Маладыя дзяўчаты, з кіраўніком Аннай Фіёнік і мужчыны — Дарафей Фіёнік і Тамаш Суліма прыехалі са Студзіводаў апранутыя ў даўнюю вопратку.

— Пайшла ў нас мода, каб касцюмы для нашых калектываў купляць у Мінску, на Беларусі. Але ж узоры і выгляд гэтых убораў не супадаюць з вопраткай нашых продкаў, што жылі на Беласточчыне. «Жэмэрва» апранаецца згодна з нашымі мясцовымі традыцыямі, хаця некаторыя нас папракаюць, што мы выступаем ва ўкраінскіх уборах. Гэта няпраўда, бо мы ж выступаем у нашай мясцовай беларускай вопратцы, — сказаў фалькларыст Дарафей Фіёнік.

Мясцовы фальклор запрэзентавалі калектывы з Чыжоўскай гміны — «Збучанкі», «Незабудкі» з Курашава і «Чыжавяне». Спевакі апошняга гурту перш за ўсё выступаюць з апрацаванымі народнымі песнямі і творамі на літаратурнай беларускай мове пад акампанемент акардэона.

— Мы штогод у час «Асенніх сустрэч» выступаем з беларускім фальклорам, а пасля ў супольнай грамадзе ўспамінаем аб жыцці ў мінулым. Мы, «Збучанкі», спяваем свае песні, на такой мове, як гаворым. Прэзентуем такія творы, якія нашы мамы і бабулі раней спявалі, бо шкада аддаваць на забыццё наш фальклор, — сказала Кацярына Ціханюк са Збуча.

— Фальклорныя мерапрыемствы патрэбныя ў нашай гміне, бо больш актыўным людзям ужо абрыдла сядзець па хатах. Ёсць патрэба спаткацца, паспяваць і паразмаўляць. Нашы «Незабудкі» з Курашава спяваюць свае беларускія песні, хаця ў нашым рэпертуары ёсць таксама іншыя творы, — заявіла Ніна Грыгарук, кіраўнік калектыву з Курашава.

— Мы падрыхтавалі новы рэпертуар, каб удала паказацца перад аднасяльчанамі. Будзем спяваць старадаўнія вясельныя песні, напрыклад, з майго дзявоцтва, — заявіла Галена Васілюк з «Чыжавян».

Кіраўнік гэтага калектыву Марыя Якімюк звярнула ўвагу на сяброўскі характар мерапрыемства, дзе няма конкурсных змаганняў, а толькі супрацоўніцтва дзеля таго, каб як мага найбольш зацікавіць публіку.

— Мы любім імпрэзы з беларускай музыкай. І хаця ногі ў нас ужо слабыя, то ездзілі мы таксама на археалагічны фэст у Збуч, дзе многа нашых песень спявалі. Як мы былі маладыя, то так спявалі, ажно поле дрыжала, а цяпер прыемна паслухаць як іншыя спяваюць і паглядзець на іх выступленні. Можна тут таксама са знаёмымі спаткацца і пагаварыць, — заявіла Зіна Аляксяюк з Чыжоў, якая прыйшла на мерапрыемства разам з сяброўкай.

## Не ведаю ў чым справа

Няма чаго плакаць над разлітым малаком, сябра Сідарук. Так як ніхто не верне моладасці з усімі яе добрымі атрыбутамі, так ніхто не верне светлага мінулага чыгуначнай Чаромхі з тысячамі рабочых, якія абслугоўвалі стратэгічны вузлавы цэнтр. Няма тых эшалонаў, якія ехалі з усходу, як і памянялася, пэўна, дзяржаўная стратэгія наконт вузлавых цэнтраў.

Каб было ўсё ясна, я не супраць, каб людзі мелі працу, жылі бестурботна, мелі даступную медыцынскую апеку, поўныя магазіны рознага тавару, як то калісь бывала і аб чым піша аўтар допісу пра Чаромху, якая была тым «стратэгічным вузлавым цэнтрам». Я не супраць таго, каб «курсіравала шэсць пар цягнікоў Чаромха — Беласток і столькі ж як не больш у Гайнаўку». Я за тое, каб на старасць без праблемы можна было дабрацца ў роднае Махнатае. Пакуль што рэчаіснасць віскоча. Калі ўжо я дабраўся ў Махнатае ў час канікул, то фактычна без веласіпеда не адведаў бы гмінная Гайнаўкі.

Спадар Сідарук аб такой сучаснай рэчаіснасці добра ведае, але настальгічна ўспамінае як то калісь добра жылося («Пустаслоўная гамонка» — «Ніва» ад 28 кастрычніка г.г.). Я нічога супроць такіх успамінаў не маю, толькі што ўсё добрае мінула, і фактычна ледзьве едуць у Беласток дзве пары цягнікоў.

Цяпер такая мода, што ўсе за ўсё вінавацяць Туска. Як бачу, сябра Уладзімір ідзе з духам часу і таксама мяркуе, што прэм'ер-міністр Туск пэўна вінаваты ў тым, што не дапільнаваў, каб закрыць дах на стадыёне ў адпаведнай хвіліне, або не дапільнаваў, каб не было справы «Амбер-Голд».

Я ўжо не ведаю ў чым справа, спадар Сідарук! З аднае стараны плённы карэспандэнт «Нівы» наракае, што заняпаў чыгуначны «стратэгічны вузлавы цэнтр», а з другой стараны, калі ўлада хоча прызначыць на мадэрнізацыю чыгункі 30 мільярдаў, то экспазе прэм'ер-міністра Туска гэта пустаслоўная гамонка. Дайшло ўжо да таго, што Туск безагаворачна вінаваты незалежна ад таго, што ён зробіць ці скажа. Калі скажа, што 30 мільярдаў злотых прызначыць на чыгунку, то абяцанні мала канкрэтныя і спадар Сідарук, як сам піша, абгрунтоўвае разважанні эканамістаў, што такія абяцанні, як прадстаўленыя ў экспазе, мала канкрэтныя. Ці прэм'ер-міністр Туск меў у экспазе паказаць як адбудуецца магутнасць стратэгічнага вузлавога цэнтра не толькі ў Чаромсе? Ці тады гэтае экспазе не было б «пустаслоўнай гамонкай»?!

Добра, што сябра Уладзімір кранае, як не кажы, палітычныя справы. Праўда, адна ластаўка, як кажуць, вясны не стварае. Але ідзе восень і зіма, надвор'е не спрыяе актыўнасці розных культурных установ і вандровак па трапінках і сцяжынках. Можна спадзявацца, што мой палемічны допіс у «Ніву» не будзе апошнім. **М. К.**

## Новае Ляўкова — першае месца

Яшчэ ў час дажынак у Нараўцы (Гайнаўскі павет) адбыліся спартыўныя спаборніцтвы — турнір салэцтваў. Удзельнічалі каманды з васьмі вёсак: Альхоўкі, Лешукоў, Новага Ляўкова, Нараўкі, Падляўкова, Семяноўкі, Тарнопаля і Заблотчыны. Першае месца заняло салэцтва Новае Ляўкова (солтыс Янка Целушэцкі). У камандзе выступілі Барташ Баканач, Андрэй Скепка ( віцэ-староста Гайнаўскага павета), Давід Скепка, Пётр Скепка, Іаланта Стыпулкоўская, Андрэй Стыпулкоўскі, Лукаш Стыпулкоўскі, Войцех Стыпулкоўскі і Рафал Харкевіч. Другое і трэцяе месца заваявалі салэцтвы Нараўка і Альхоўка. **(яц)**

# Інтэграцыя ў Крынках





■ Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

Штогод, напярэдадні старажытнага свята Дзядоў, Бельск-Падляшскі і рэшта свету паглыбляюцца ў меланхалічным настроі канцэртных залаў „Бардаўскай восені". Рэшта свету, за выключэннем Крынак, у якія, быццам ва ўмацаваную крэпасць, не далятае нават рэха знакамітага фестывалю. Але і тут не лянуюцца. Мясцовыя культработнікі толькі што паспяхова справіліся з II Падляшскім аглядам бардаўскай песні для людзей з абмежаваннямі „Восень паэзіяй размаляваная". Хаця ініцыятарам праекта з'яўляецца Анна Гаўка, старшыня Аб'яднання ў карысць інвалідаў і сацыяльна выключаных „Драбіна", а заадно настаўніца мясцовай школы, да справы далучыліся ўсе гмінныя ўстановы і арганізацыі. З маральнай і фінансавай падтрымкай прыйшла Управа горада і гміны Крынкі, мясцовы дом культуры, школа, бібліятэка і многа хто яшчэ.

Паводле слоў прысутнай на мерапрыемстве старшыні Гміннай рады Аліцыі Трызны, агляд з'яўляецца перш за ўсё святам для душы:

— Мы не шукаем тут пераможцаў. Усе выступаючыя ў сённяшнім канцэрце падарылі нам многа радасці. Думаю, што і яны задаволены добрым успрыманнем публікі. Гэтае мерапрыемства з'яўляецца таксама прамоцыяй нашага гарадка і аб'яднання „Драбіна". Умацоўваемся ў перакананні, што ідзем у добрым напрамку. Наша Гмінная ўправа падтрымлівае згаданую арганізацыю фінансава і клапоціцца пра рэалізацыю ўсіх іхніх намераў. Ад імя Гарадской рады абяцаю далейшую падтрымку гэтых, безумоўна карысных, дзеянняў.

Мерапрыемства праходзіла ў мурах старой каўказскай сінагогі. Гледачоў захапіла адмысловая дэкарацыя аўтарства мясцовай артысткі Цаліны Бах-Шчавінскай. Сваімі рукамі замяніла яна цёмную, пустую сцэну ва ўтульны паэтычны куток са старым фатэлем-гушкалкай, вязанай сурвэтай і папяровым гадзіннікам у старадаўнім стылі.

Хаця фестываль, як сама назва ўказвае, прызначаны для людзей з абмежаваннямі, у сёлетнім яго выпуску найбольш выступіла вучняў мясцовай пачатковай школы і гімназіі. Мерапрыемства стала сапраўднай і заадно гарманічнай інтэграцыяй людзей рознага ўзросту і фізічна-інтэлектуальных магчымасцей. Адлюстроўвалася гэта таксама ў падборцы песень.

Як выявілася, большасць маладых выканаўцаў — крынскіх школьнікаў — выбар і падрыхтоўку конкурсных твораў узяла ў сваю адказнасць. У выніку сцэну запалянілі рытмы найбольш папулярных музычных жанраў і напрамкаў. Здавалася, што дзеткі паказалі публіцы тое, чым накармілі іх у родных хатах. Пераважалі гіты польскага радыёвяшчання і тэлебачання, але не бракавала таксама падпольнага дыска-пола. У некаторых выпадках падбор рэпертуару быў надта ўдалым. Гімназістка Оля Бадавец праспявала пра хваляванні, звязаныя са сцэнічным дэбютам. Яе сябра па школьнай парце Міхал Ігнатовіч адчуў духоўную сувязь з песняй „Справім гэта" з рэпертуару выканаўцы музыкі рэгэ і гіпгоп Грубсона. Твор гэты кранаў тэму складаных часоў, цяжкасцей жыцця і іх пераадольвання. Крыху трывожным з'яўляецца факт, што нашая моладзь так рана ўваходзіць у сапраўды сур'ёзныя праблемы дарослых. Міхал апрача ўдалага выступлення паказаў сябе яшчэ выдатным валанцёрам. Разам са школьнымі сябрамі ён апякаваўся гасцямі, падапечнымі ўстаноў для працягла хворых і інвалідаў з Беластока, Саколкі і падсупрасльскіх Лазняў.

Валанцёрская дапамога спатрэбілася таксама і ў час сцэнічных выступленняў гасцей, між іншым, пры ўводжанні іх на сцэну ці трыманні мікрафонаў. Вялікую ролю і добразычлівасць крынскай школьнікаў публічна заўважыла Антаніна Кнабэ, тэрапеўт Дома сацыяльнай дапамогі з Беластока. Яе падапечныя заваявалі сэрцы крынскай публікі „Рабінай", рускай песняй у польскім перакладзе. Асаблівай прыгожасці твору дадаў моцны, адкрыты голас больш чым васьмідзесяцігадовай Зінаіды Садоўскай. Пасля выступлення спявачка родам з-пад Кузніцы прызналася, што „Рабіна" з'яўляецца песняй яе жыцця. Антаніна Кнабэ некалькі разоў у тыдзень збірае сваіх падапечных на музычныя вячоркі.

— Пры акампанеменце піяніна раскрываюцца шлягеры даўніх часоў. Рэпертуарныя прапановы выходзяць найчасцей ад саміх жыхароў дома, — кажа Антаніна Кнабэ. — Я займаюся апрацоўкай, нотным запісам і выдаваннем нашых песенных зборнікаў. Мы з ахвотай удзельнічаем ва ўсякіх аглядах і артыстычных паездках. Кожны год у траўні выступаем на падмостках Беластоцкага лялечнага тэатра ў рамках міжнароднага агляду артыстычных калектываў дамоў сацыяльнай апекі. У гэтым, асабліва каляровым і цікавым мерапрыемстве, сябруем, між іншым, з калектывамі з Беларусі, Літвы і Украіны. У Крынках мы ўжо другі раз. Тут вельмі спрыяльны, сяброўскі клімат. У гэтым мерапрыемстве ўдзельнічаюць перш за ўсё дзеці, якія сваёй прысутнасцю ўносяць агромнейшую весялосць і жыццерадаснасць. Старэйшыя пры іх амаладжваюцца. Мушу сказаць, што мае сеніёры любяць кантактаваць з дзяцьмі. Шчыра цешацца, калі наведваюць іх школьнікі, таму і сённяшняе мерапрыемства з'яўляецца асаблівай формай здзяйснення гэтай душэўнай патрэбы.

Усе ўдзельнікі песеннага агляду атрымалі ўзнагароды з рук сакратара Гміннай управы Ежы Цітко. Старшыня конкурснага журы Уладыслава Яновіч — шматгадовая дырыжорка мясцовага хору польскай патрыятычнай песні „Погодна есень" у вялікім усхваляванні прызналася, што першы раз мела гонар прыняць удзел у такім мерапрыемстве. Падзякавала яна ўсім за адвагу, цудоўныя выступленні і выяўленне сваіх эмоцый і пачуццяў праз пасрэдніцтва музыкі. Пажадала ўсім спаткацца ў той жа мілай і сяброўскай кампаніі ў наступным годзе.



■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Імперыя графікі

Юрый Якавенка

**Юрый Якавенка — адзін з найвыдатных і нешматлікіх беларускіх графікаў. Яго працы, асабліва ілюстрацыі да кніжак, вядомыя ў шмат якіх краінах Еўропы. У апошні час заваёўваюць Італію, а неўзабаве маюць і Грэцыю. 23 кастрычніка яго выставу „Імперыя Саламона” адкрылі ў беластоцкай галерэі „Агарт”, вядомай ад узнікнення ў 2006 г. прамоцыяй мастацтва з усходніх краін, мяжуючых з Польшчай, галоўным чынам з Беларусі. Шэф „Агарта” Агнешка Багінская:**

— Гэтая выстава планавалася ад года. Гэта для нас асабліва вылучэнне. Цешымся, што Юрый даў сваю згоду. Ягоныя графікі — унікальныя. Выкананы яны тэхнікай афорта.

Арганізатары ў выдадзеным да выставы буклеце так напісалі аб аўтары і ягоных працах: „Гэта прызнаны мастак, які стварае багатыя ў дэталь графікі. Вельмі дэталёвыя і дакладныя працы мастака гэта пераважна монахраматычныя фантастычныя кампазіцыі. Прадстаўленні на памежжы сюррэалістычнай уявы і нястворанай рэальнасці, захопліваюць разнастайнасцю. У адной працы мастак з такім жа самым стараннем паказвае нам чалавечую постаць, элементы неадушаўлёнай натуры, але таксама фаўну і флору. Таксама фон у працах Юрыя Якавенкі незвычайна важны. З’яўляецца злучным рэчывам неверагодных пейзажаў ды прадметаў нам добравядомых, такіх як гадзіннікі, элементы строю, кветкі і жывёлы. Кожны элемент, аднак, унікальны па сваёй фактуры і характары”.

Згодна з загалоўкам, выстава спасылаецца на вядомыя аповеды праславутага сваёй мудрасцю Саламона, прарока, цара Ізраіля, сына і наступніка караля Давіда, вялікага будаўніка, на гады панавання якога прыпадае найбольшая знакамітасць яўрэйскай манархіі. Як напісана ў Бібліі: „Даў Бог Саламону мудрасць і толк незвычайны ды розум неабмежаваны, як пяску на беразе мора. I мудрасць Саламонава пераўзыходзіла ўсіх людзей Усходу і егіпцян (...). Выказаў тры тысячы выслоўяў, а песень ягоных была тысяча і пяць”. Саламонава мудрасць дайшла да нашага часу, як, напрыклад, у выпадку кампрамісных вырашэнняў канфліктаў, якія называюць саламонавымі.

Меншыя і большыя па фармаце творы пераплецены гушчай ліній і кропак, губляючыхся ў гушчары кшталтаў, асабліва жаночых. Поўнасцю характар выставы перадае акрэсленне аднаго з крытыкаў, які прымяніў яго, спасылаючыся на графікі Юрыя Якавенкі: „Гармонія хаосу, свету, сну”. Аўтар у час вернісажу сказаў „Ніве”:

— Выставу складаюць перш за ўсё два цыклы „Песня песень цара Саламона”, які заказала ў мяне італьянскае выдавецтва ды „EVAngelia”, заказана адным з грэчаскіх выдавецтваў. Да іх я далучыў малафарматныя працы, на якіх паказаў свае фантазіі на тэму грэчаскай натуры. У Беларусі я вядомы. Адным падабаюся, іншым не, а тут публіка нейтральная, якой я малавядомы. Кніга „Песня песень цара Саламона” мае выйсці па-італьянску і па-англійску. Італьянскі варыянт у графічным маштабе больш памяркоўны, таму што спонсарам з’яўляецца Праваслаўная царква. Англійскі больш свабодны, эратычны, там спонсарам з’яўляецца прыватная асоба. Паставілі мяне ў акрэсленых творчых рамках. Я паглядзеў, што рабілі перада мною, інспіруючыся гісторыяй і думкамі Саламона, таму што кананічны тэкст „Песні песень Саламона” не існуе, а нават яго аўтарства спрэчнае. Ёсць розныя інтэрпрэтацыі: праваслаўная, каталіцкая, лютаранская, іудзейская. Ёсць таксама свецкія тэксты. Мы з выдаўцом дайшлі да высновы, што будзем абапірацца на свецкія тэксты. Я паглядзеў, што да майго часу зрабілі іншыя мастакі, напрыклад, Сальвадор Далі, нямецкі мастак Вундэрліх, Марк Шагал. Гэта ўсё я прапусціў праз сябе самога.

Кніжка (у прынцыпе г.зв. арт-бук), у якім апынецца цыкл „Песні песень цара Саламона” будзе выдадзена ў прэстыжным і элітарным выдавецтве „Stella”. Кожная з моўных версій пакажацца тыражом толькі ў 90 экземпляраў. Мастак ілюстраваў тут ужо графічна „Песню пра зубра” (гэты класічны твор выдалі ў 180 экземплярах):

— „Песня песень цара Саламона” сама ў сабе абстрактная. Чытаюцца тут тэксты тыпу „алілуя, алілуя, якія прыгожыя грудзі”, „алілуя, алілуя, ах якія ножкі”. I так у васьмі частках. Сюжэту па сутнасці няма. Поле для ўявы агромнае. Я жаночай тэматыкай дагэтуль мала займаўся. Прыцягвае мяне яшчэ адзін нюанс. Хаця я не жонаненавіснік і кахаю жанчын, вельмі падабаецца мне сярэдневяковая пазіцыя, якую відаць у гэтым другім цыкле — „EVAngelia”, дзе да жанчыны адносяцца як да д’ябальскай з’явы. Падабаецца мне тое змаганне паміж анёламі і д’ябламі за жаночы пол. Я ўзяўся за гэтую працу крыху таму, каб пазмагацца з самім сабою, супрацьць сябе, бо ў мяне жаночае цела атрымлівалася горш чым мужчынскае. Жаночае такое расплыўное. У мужчынскім можна, у мастацкім сэнсе, зачапіцца за мышцы, сухажылле, косці.

Аб графіцы распавядаў нам:

— Графіка вельмі папулярная ў Італіі ці ў Польшчы. У Беларусі з ёю — трагічна. Цяпер кнігі танней выдаваць у Польшчы ці ў Славакіі. Мінуў камуністычны час, калі графіка найбольш цанілася сярод жанраў мастацтва звязанага перш за ўсё з кнігамі. У Мінску ў Акадэміі мастацтваў у год выпускаецца не больш пяці графікаў, а ў іншых вучэльнях графіцы не навучаюць. З кожнай гэтай пяцёркі пасля 99,9 працэнта пераходзяць на жывапіс. Усё з-за фінансавых прычын і праблем з матэрыяламі. Ёсць у нас старэйшае пакаленне графікаў, якое можа ўжо не так стварае, як паказвае старэйшыя працы. Ёсць маладое пакаленне, ды гэта агулам пяцьдзесят асоб. Беларусь па гэтай прыкмеце далёка за Польшчай, дзе ў некалькіх гарадах працуюць сапраўдныя цэнтры графікі. Нават у меншых гарадах, такіх як Острув-Велькапольскі ці Мальбарк, ёсць трыенале і біенале графікі, фестываль малых графічных форм. Не можам параўноўвацца да польскіх графічных дасягненняў у галіне плаката ці кніжкі. Перш за ўсё ў вас відаць зацікаўленне графікай.

Прысутныя на вернісажы звярталі ўвагу на сюррэалістычны характар некаторых прац. Юрый Якавенка падвёў гэта наступным чынам:

— Вам здаецца гэта быць сюррэалістычным, а для мяне яно цалкам рэалістычнае. Я заўжды меркаваў, што мастак, які кажа, што глядач яму непатрэбны, проста лжэ. Часам бывае так, што гледачы бачаць у маіх працах тое, чаго я сам не прыкмячаю, засяроджваючыся ў час стварання на дэталях. I гэта добра.

У спасылцы на эратычныя матывы прызнаўся:

— Я кіраваўся да таго, каб у працах было шмат эратызму, ды не адкрытага, не шакавальнага.

У галерэі „Агарт” таксама ў цяперашнім сезоне будзе хапаць выставаў мастакоў з Беларусі. Агнешка Багінская:

— У снежні плануем калектыўную выставу: Ксяндзоў, Хобатаў, Мацко. Будзе гэта выстава акту ў рознай форме. На пачатку будучага года намерваемся паказаць чарговыя працы Сяргея Грыневіча, якога мы гасцілі тут два гады таму. Гэта мастак, які прадстаўляе поп-арт. Асабліва гэтай выставы не магу дачакацца, таму што абажаю гэтага мастака.

## Заблудаўская дэмаграфія

Зараз у Заблудаўскай гміне пражываюць 8962 асобы ў 55 населеных пунктах. Найбольш у горадзе Заблудаве — 2423 чалавекі. А вось найбольшыя вёскі: Дабжынёўка — 724 жыхары, Кур’яны — 542, Рахвалаўка — 408, Галіцкія — 235, Звяркі — 233, Рыбалы — 230, Крыніцкія — 227, Пратасы — 208, СКР Рыбалы — 207, Паўлы — 192, Скрыбічы — 179, Лубнікі — 175, Заблудаў-Калёнія — 170, Фальваркі-Малыя — 166, Фальваркі-Тыльвіцкія — 161, Камёнка — 154, Загрушаны — 144, Рэпнікі — 137, Беласточак — 123, Фальваркі-Вялікія — 117 і Кудрычы — 112.

Малыя вёскі гэта Кухароўка — 98 жыхароў, Навасады — 94, Козлікі і Пасынкі — па 86, Целушкі — 85, Плоскія — 80, Кавалёўцы — 74, Астраўкі — 72, Давідаўцы — 67, Гнецюкі — 64, Жукі — 63, Баброва — 57, Канюкі — 54, Заязерцы і Сеські — па 52 і Малынка — 51.

Самыя малыя пасяленні гэта Краснае — 17 жыхароў, Міневічы і Слямянка — па 15, Лук’яны — 11, Тэадорава — 6, Рудніца — 2 ды Багданец і Касцюкоўка — па 1.

У 2011 годзе ў Заблудаўскай гміне нарадзілася 85 дзяцей, у тым ліку 50 дзяўчынак і 35 хлопчыкаў. Найбольш народзін было ў другой палове года, між іншым у жніўні — 10 і ў лістападзе — 12. Пажаніліся 76 пар. Найбольш шлюбаў было ў маі — 12, жніўні — 13 і верасні — 14. Развялася 31 пара. Памерлі 109 чалавек, у тым ліку 61 мужчына і 48 жанчын.

У першай палове 2012 года ў Заблудаўскай гміне нарадзілася 47 дзяцей: 30 хлопчыкаў і 17 дзяўчынак. Найбольш дзяцей нарадзілася ў студзені — 9, сакавіку — 10 і маі — 13. Пажаніліся 36 пар (найбольш у чэрвені — 15) ды развяліся — 12. Памерлі 56 асоб: дваццаць жанчын і амаль два разы столькі мужчын! Найстарэйшай жыхаркай Заблудаўскай гміны з’яўляецца Леакадзія Давідовіч (нар. 3 мая 1912 г.) з вёскі Крыніцкія.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Памяць аб загінуўшых

Праваслаўная царква моліцца аб усіх памерлых ад веку хрысціянах і аб салдатах, якія загінулі на полі бою ў змаганні за Радзіму. Гэтае памінанне здзяйсняецца штогод у першую суботу месяца, напярэдадні дня памяці св. Дзмітрыя Салунскага. Так было і ў храмах Гайнаўкі, дзе пасля літургіі служылася паніхіда па загінуўшых.

Жыхары Гайнаўкі вельмі шануюць магілы савецкіх воінаў, партызан, усіх, што аддалі сваё жыццё за вызваленне Гайнаўшчыны і ўсёй Беласточчыны з-пад нямецкай акупацыі, і навечна тут засталіся, спяць вечным сном пад гонкімі соснамі ваеннага могільніка. Жывыя не павінны забываць тых, хто загінуў.

Ад заканчэння Другой сусветнай вайны мінула многа гадоў. Вырасла не адно пакаленне, якое не ведае, што такое вайна. Але ж відаць, што памяць і пачуццё болю за тых, хто не дажыў да перамогі, закладзены ў нашых людзях на генетычным узроўні. Тыя што загінулі, засталіся вечна маладымі. Углядаюся ў фотаздымкі, прозвішчы, надпісы на кожным надмагіллі, якія за жывое кранаюць маю душу.

**Віктар БУРА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Як у Гайнаўцы развіталіся з восенню!

Каб падзякаваць маці-прыродзе за яблыкі, дыні, грыбы і журавіны, нашыя продкі спраўлялі Багач. На свята рыхтавалі горбу смачнай яды і частавалі ўсіх, хто завітае ў хату. Так смачна і гасцінна было ў гайнаўскай „шасцёрцы”, дзе вучні чацвёртых класаў падрыхтавалі „Праводзіны восені”. Калі мы з дажджлівай вуліцы завіталі ў беларускі клас, аж пацяплела ў душы. Зала гарэла ў восеньскіх колерах і пахла яблыкамі з сапраўднага саду. Многія дзяўчынкі прыаздобілі свае сукенкі і блузачкі каляровым лісцем.



— Файная ў цябе сукенка! Можна на баль ісці, — пахвалілі мы Юлю Корч, якая ў сваёй ружовай сукні напамінала лясную фею.





Фота Ганны Кандрацюк

— А гэта мы з мамай купілі новую сукенку, спецыяльна на гэтае прадстаўленне.

Сямейка дзяўчынкі не дарма так перажывала. Юля ў пастаноўцы іграла галоўную ролю — Шчодрую Паню Восень.

— А была трэма?

— Была, была, — прызнаецца Юля.

— Я таксама баялася, каб не памыліцца, не зблытаць слоў, — кажа Сандра Паляшук. Сандра асвоена са сцэнай і выступленнямі. Дзяўчынка пяты год вывучае ігру ў класе фартэпіяна.



— А які зараз твор вывучаеш?

— Зараз іграю „Eine kleine Nacht-music» Моцарта...

— Падабаецца?

У адказ Сандра пасылае шчырую ўсмешку і ківае галавой. Яшчэ ёй цяжка скласці адказ па-беларуску...

У чацвёртых класах „а” і „ц” яшчэ чатыры скрыпачкі і іх музыкальнасць цудоўна спрацавала ў пастаноўцы, дзе дзеткі праспявалі восеньскія песні з рэпертуару „Журавінак” і Данчыка. Апошнюю песню (*Дзе мая радасць, дзе маё шчасце — дзе папараць-кветка цвіце*) праспявалі двойчы. Вядома, не адбылося без вершыкаў пра восень. І ацэньваць іх выступленні даручылі гасцям: Наталлі Герасімюк з Радыё Рацыя, настаўніцы Гражыне Паўлючук і мне. Задача не была простай, але лаўрэатаў мы вылучылі. Вось першае месца атрымала згаданая ўжо Сандра Паляшук, другое месца атрымала Юля Корч, а трэцяе адзіны хлапец з ліку чатырнаццаці дэкламатараў — Каміль Сельвясюк. Хлапец гаварыў верш „Грыбы”.

— Падазраваю, што ты ўжо закаранелы грыбнік?

— А як жа, — прызнаецца Каміль, — я вельмі люблю хадзіць у лес.

— А ўмееш адрозніць ядомыя грыбы ад *воўчых бэтак?*

— Пэўна, што ўмею! Я хаджу па грыбы з татам і братам, таму ўсё ведаю.

— А хто з вашай тройкі мае найбольшае шчасце ў лесе?

— Крыстыян, мой старэйшы брат...

Да школьнага свята рыхтавалася ўся сям’я Каміля. Вось яго мама спякла смачны пірог з яблыкамі. Менавіта, на гайнаўскае свята матулі напяклі разнавідных пірагоў з яблыкамі, карыцай і трускалкавымі і вішнявымі жэле. Прынеслі таксама кашы чырвоных яблык. Для гурманаў былі падрыхтаваны чыпсы з сушаных яблык і кош грэцкіх арэхаў. Яды было столькі многа, што хапіла яе для выступоўцаў і для гасцей (а таксама сяброў з іншых класаў, якія, прыведзеныя пахам, забягалі ў беларускі клас у час перапынку). А публіка была не абы-якая. Паглядзець спектакль прыйшлі першакласнікі са сваёй выхавацелькай Гражынай Паўлючук. Спецыяльна для іх чацвёртакласнікі падрыхтавалі загадкі пра восеньскую агародніну і садавіну, з падказкай на малюнках. Пастаноўка, песні, вершы і гульні наклікалі не толькі радасны, каляровы настрой, але і заахвоцілі да выступленняў гасцей. У пэўны момант на сярэдзіну класа выйшаў адважны першакласнік. Гэта быў Каміль Вашковец. Хлапчук, пад уцеху і радасць сяброўак, праспяваў „Беларусачку”. Цудоўна! Ад пачатку да канца, усе тры звароткі...

— А хто цябе навучыў гэтай песенькі?

— Мой тата, — адказаў з гонарам першакласнік.

„Праводзіны восені” падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Людміла Грыгарук. (*Інтэр’вю з настаўніцай чытайце на старонцы 9*)

**ЗОРКА**



*Юля Корч*

## ЯЗЫКАЛОМКА

**Паламала Міла лыжку,**
**не стаміўшыся**
**ні крышку.**
**— Метал, Міла**
**— не для гуляў! —**
**угнявілася бабуля.**

Міра ЛУКША

# Бо там жыве мая бабуля…

— А я ведаю, дзе вёсачка Канюкі, — усклікнуў Давід. Гэта быў каментар на вершык „Канюкі з Канюкоў”, які прачытала Міра Лукша, аўтарка зборніка „Жывінкі з глыбінкі”. Іншыя сябры Давіда — Оля, Вікторыя і Вераніка таксама жыва ўспрымалі назвы падляшскіх мясцовасцей. Як аказалася, у некаторых з іх пражывалі бабулі або прабабкі дзяцей. Таксама беларуская мова здалася ім крыху знаёмай, сямейнай…

6 лістапада нашу рэдакцыю наведалі пяцікласнікі ПШ № 32 у Беластоку, разам са сваёй настаўніцай Агнешкай Скаўронскай. У іх школе ад пяці гадоў працуе гурток, які займаецца вывучаннем моў і культуры ўсходнеславянскіх народаў. Прыгадайма, усходнеславянскія народы гэта беларусы, украінцы і расіяне. Да іх грамады прыналежым таксама мы — беларусы Падляшша.

— А ведаеце ўжо кірылічныя літары? — спыталі мы ў дзяцей.

— Мы толькі пачынаем, таму паспелі вывучыць чатыры літаркі…

Аказваецца, не так проста вывучыць культуру народаў. Асноўнай справай тут буквы — кірылічны алфавіт. Дзеці, якія вывучаюць беларускую мову ў школе, намнога хутчэй спраўляюцца з такой задачай. Мы распавялі нашым гасцям пра дзяцей і моладзь, карэспандэнтаў „Зоркі”, якія па-беларуску пішуць артыкулы, апавяданні і вершы. Ад захаплення ў пяцікласнікаў загарэліся вочкі. Спецыяльна для іх пісьменніца Міра Лукша прачытала, якраз з-пад рукі, смешныя языкаломкі…

**ЗОРКА**



Фота Ганны Кандрацюк

# Музыка з кайфам

## Па-шчырасці скажу… Алесь Кот-Зайцаў



Калі ў вас не было яшчэ нагоды пазнаёміцца з музыкай гурту «Босае сонца», запрашаю гэтую прыгоду пачаць са знаёмства з лідарам і душой гурту Алесем Кот-Зайцавым. Журналіст, культурны актывіст, вакаліст і кампазітар запрашае на сустрэчу ў дзвюх частках. У першай распавядзе пра шлях да творчасці, у другой, праз тыдзень, пра свядомую эміграцыю ў Маскву ды працу з гуртом «на адлегласць». Запрашаем!

— ***Алесь, як склаўся Твой музычны шлях?***

— Я любіў музыку ўсё жыццё. І, відаць, маёй упартасці хапіла для таго, каб любыя цяжкасці «дарослага» жыцця не забілі і не знішчылі гэтую дзіцячую мару — быць музыкам. Я праз усе 25 год жыцця цвёрда стаю на тым, што музыка — гэта тая справа, якой я мушу займацца, бо адчуваю на сто працэнтаў, што гэта мая справа, якую я раблю найлепей, чым штосьці іншае, укладаючы ў яе ўсяго сябе цалкам. Астатняе — адукацыя, хобі, ці штосьці яшчэ, я лічу, што ў маім выпадку гэта не істотна. Былі моманты, калі я займаўся музыкай выключна на аматарскім узроўні, былі моманты, калі атрымліваў прафесійную адукацыю. Цяпер, хоць і не маю ўніверсітэцкага дыплома як музыкант, але працую з прафесійнымі музыкамі і адчуваю сябе «ў сваёй талерцы». Значыць, усё адбывалася і адбываецца як мае быць!

— ***Хто Цябе інспіруе з ліку беларускіх і сусветных выканаўцаў?***

— Цяжка называць імёны, бо ў мяне няма пастаянных фаварытаў. Я ў розныя часы слухаў досыць розную музыку. У маленстве слухаў папсовыя савецкія гурты, эстраду, пасля панк-рок, пасля цяжкі метал за ім беларускі рок, гурты «Уліс», «НРМ» і іншыя. Пазней быў класічны рок, кшталту «Pink Floyd», ці тых жа «Beatles», далей сучасны поп-рок «ColdPlay», «Muse», «Radiohead». Цяпер мяне ўсё больш цікавіць якасная поп-музыка, поп-рок, індзі-рок, электронная музыка. Увогуле я цаню ў музыцы стылёвасць, спалучаную з глыбінёй, з моцнай энергетыкай. Без гэтага музыка, на маю думку, не можа быць сапраўднай. А пашчырасці, чым далей, тым больш я разумею, што самы вялікі кайф, асалоду я атрымліваю часцей не ад праслухоўвання якой бы то ні было музыкі, а менавіта ад працэсу стварэння і выканання музыкі. Найвялікшы кайф проста знайсці і граць сваю сапраўдную музыку, якая знаходзіць водгук у твайго слухача.

**i_basovka@o2.pl**

# Беларуская загадка-конкурс! (47)

Адгадайце загадку, адказы дасылайце да канца лістапада, найлепш па электроннай пошце.

Не світка, а сшыта,
Не куст, а з лістамі,
Маленькага росту,
Прыгожага стану.
Хто яе знае,
Той розум мае.

(Ніл Гілевіч)

Адказ на загадку-лічылку ў „Зорцы” № 44 (Дваццаць без пятнаццаці, трох не далажыўшы, двух не далічыўшы): вынік — нуль.

Узнагароду, 12-каляровы набор аўтаручак, выйграла **Патрыцыя Міхальчук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

# Польска-беларуская крыжаванка № 47

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 42:

Парк, кот, Ас, яр, сом, Ака, аграфка, агрэст, як, неба, Ака. Ясь, пяро, ман, грыб, кабарэ, гафт, як, тумбачка.

Узнагароды — CD Андрэя Мельнікава „Як з-за выспы па фарватэр…” — выйгралі **Магда Пташынская**, **Іаанна Марчук**, **Аляксандра Куптэль** з Нараўкі, **Кшыштаф Лаўрашук**, **Віялета Белах** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!




№ 47 [18-11-2012]

# Гедройць па-свойму

Тэкст і фота Агаты АРЛЯНСКАЙ

Сярод самых цікавых кніг беластачан 2012 г. — „Півоня, нямова, галасы” — новая кніга пісьменніка, паэта, выкладчыка беластоцкай Тэатральнай акадэміі Кшыштафа Гедройця (выдадзеная яна ў Варшаве). У 2003 г. за кнігу „Listy z dolnego miasta” атрымаў ён літаратурную прэмію імя Веслава Казанэцкага. Ягоныя вершы параўноваюцца да паэзіі Мірона Бялашэўскага. Раман вельмі моцна асаджаны ў рэаліях пасляваеннага Беластока.



Злева: Кшыштаф Дзерма, Кшыштаф Гедройць і Дарота Сакалоўская

„Півоня, нямова, галасы” гэта сенсацыйны раман пра 40-50-я гады ў Беластоку, калі біяграфіі людзей у горадзе, пасля вайны ўзніклым аднова, моцна перабліталіся, пазмяняліся сферы ўплываў, камунізм тут трымаўся, адны яго адабралі, іншыя не.

— У маёй кнізе ёсць вельмі дэталёвыя месцы — вуліцы, касцёлы, паркі, помнік салдата з кулямётам, сядзіба бяспекі... — прызнаецца аўтар. — Я папрасіў зрабіць гістарычную кансультацыю ў Тамаша Данілецкага з Інстытута нацыянальнай памяці. Удакладніў мне ён гістарычныя факты і акалічнасці здарэнняў, якія ў маёй памяці памяшаліся або якіх я не быў свядомы.

У рамане, напісаным па-польску на „тутэйшай мове”, ёсць забойствы, спробы высвятлення яго, аднак не самы важны сюжэт, як тая галерэя людзей. Гедройць зарысаваў іх паўнакроўнымі, крыху з іроніяй, паглядам збоку, усё ж на свой спосаб чулліва. Апавядальнік (аўтар выразна аддзяляе яго погляды ад сваіх) выклікае прывіды з мінулага (бо самі яны патрабуюць гэтага ад яго). Чытаем пра ўсё, пра што папраўдзе ўсе ведаем, ды Гедройць усяму гэтаму, што ў Беластоку акуратна хаваецца — дае сваё імя. Нашыя ўнутраныя варожасці, трэнні, спрэчкі паміж католікамі і праваслаўнымі, палякамі і „рускімі”, беластоцкія -ізмы (сярод якіх хапае і антысемітызму), падгрызанні, што лепшае, што горшае, нашы зайздрасці. Перш за ўсё кранае сарамлівы матыў пытання рускасці/польскасці, які надалей акрэслівае нашы штодзённыя адносіны, аб якіх гучна не гаворыцца, бо гэта некарэктна палітычна, што мо лепш адсунуць чым абмяркоўваць. У рамане Гедройця гэта ўсё адбываецца ў час кіпучых гадоў: пытанне нацыянальнай ідэнтыфікацыі, мешаныя сужонствы, абніжванне палякамі рангу „рускасці”, прыхаванай непрыхільнасці. У сапраўднасці ў тых міжчалавечых адносінах мала змянілася, а можа пра гэта яшчэ менш гаворыцца.

Гедройць расказвае аб усім на сваёй мове — мове вёскі, якая „размаўляе па-руску”. А папраўдзе на беластоцкай мове, тутэйшай, якая стварылася пасля вайны, калі ў горад з'ехаліся новыя жыхары — з Кляшчэль, з Тапляр, з Каралёвага Моста, і Фрампаля, і з Залук і са шмат якіх месцаў. Спачатку можа гэта цяжка чытаецца папольску, пасля ўслухоўваешся ў сакавітасць мовы. Або і сабе прыгадаць, бо шмат хто з чытачоў яе ведае, але не ўжывае. Сароміцца? Ці можа падумае аб ёй з пяшчотай? Адчуваецца ў кнізе рэха аповесцей Эдварда Рэдлінскага, Уладзіміра Паўлючука, славутай перадачы „На Млыновай”. Але Гедройць тут і сацыёлаг, мовазнаўца і антрапалаг, які па-свойму прыглядаецца свайму гораду ў яго гутарковасці і сакавітасці, кранае жывую тканку. І кожны дастае пароўну — і рускія, і палякі, і беларусы, і католікі, і ўбэк, і партызан. Балюча.

Апавядальнік кажа так: „Калі гета ліквідавалі, ніхто жыдоў не шкадаваў. Як дым з неба ўгару ішоў, мы на Грунвальдскай спакойна сабе жылі. А як на канец цэлае гета да газу павезлі, мы ўсе ўздыхнулі, што ўрэшце спакой і чыстае паветра да нас вернецца. Там, дзе жыды, спакою і парадку няма. Усё ў іх наблытана і не наша”.

Кажа таксама: „Як каторы беларус або католік сасвініўся, або ўбэк меў зашмат на сумленні, дык ішлося да партызанаў, і яны парадак рабілі. А партызаны: то ж мы ад таго, каб наша племя перад камунай, рускімі і жыдамі выбараніць. Мы на трэцюю вайну ўжо рыхтуемся. Ужо Буры паказаў, як з рускімі абыходзіцца, каб ведалі хто тут жондзіць”.

І кажа яшчэ так: „Перад вайной суседзі па мордах налупіліся і спакой быў. Цяпер да бяспекі лятаюць. Беларус на католіка даносіць, католік на беларуса, беларус на беларуса, католік на католіка. І бяспека за іх справы афармляе. Толькі чакае, паперы збірае. Слухае. Найбольш беларусаў, бо бяспека беларуская і жыдоўская. Сваяк сваяка падтрымлівае і за ім стаіць”.

Раман асаджаны ў рэальнасці нялёгкага часу. І хаця ў кнізе шмат гумару, то праз смешна-гаркавы клімат прабіваецца сапраўдная драма — паяўляюцца матывы, звязаныя са смерцю пару соцень асоб у час Аўгустоўскай аблавы, даносы, няўпэўненасць у заўтрашнім дні. Вялікая і хатняя гісторыя пераплятаюцца. А якія ж там персоны! Вера, што хацела быць мястовай Веронкай, бо вёска, якая гаворыць па-руску, ды хамская гідзіць яе, таму шукае сабе католіка і злуецца, калі маці ёй кажа: „Вера — з цябе Веронка як з сальцісону шынка!”. Зубжыцкі — католік, партыйны таварыш, што мае слабасць да беларуса Толіка, як да якое дзеўкі. Убэк Скепка—паповіч, што малы быў і ад маленства любіў людзей падглядаць, калі іншыя яго не бачылі, „urząd lubiał”, у папку заглядваў. Стася, што яе мужа за першага савета забралі ды на белыя мядзведзі паслалі, а ёй ад гэтага чакання ў галаве пераварочвалася. Півоня (Івона, але ўчырванелая як півоня) з мешанага сужонства: бацька католік, маці руская з-пад Грыбоўшчыны, што, кажуць, з вершалінцамі мела дачыненне. Півоня пачытала пра Шэрлака і захацелася ёй стаць міліцыянткай і ла-




віць забойцаў, а тут якраз і трапілася, што замардавалі Стасю...

Гедройць даў героям свабодную руку, і гавораць яны як хочуць, і кожны крычыць, бо мае сваю рацыю. А сучасны чытач штораз больш усведамляе сабе, што той час плыве, а некаторыя погляды, сціранні, можа крыху толькі больш палагаднелі, але ж, на жаль, існуюць надалей. Хаця гэта ўжо не з-за нацыянальнасці, а ўкаранелых стэрэатыпаў.

Кшыштаф Гедройць:

— У пэўны момант да мяне дайшло, што нашу ў сабе гэтую неўжываную мною тутэйшую, жывую мову. Прыгадаліся мне часы канца пяцідзесятых, калі я сядзеў у пясочніцы, а пасля ў школьныя гады слухаў сваіх калег, якія прыбылі з навакольных вёсак у горад. Я прыслухоўваўся, як яны гавораць. Гэта быў цікавы досвед. Мінула шмат часу, вярнулася памяць тае мовы. Усё пачалося ў момант, калі я зразумеў, што ў Беластоку шмат ёсць нявыказаных спраў — такое падскурнае, скрытае жыццё і штодзённае мышленне. Гэта мае вялікую сувязь з пытаннямі нацыянальнасці і рэлігіі, гісторыі і палітыкі, аб чым адкрыта найчасцей звычайна не дыскутуецца. Гаворка пра праблемы ў польскасці, рускасці, беларускасці, пытанні звязаныя з унутраным жыццём мяшаных каталіцка-праваслаўных сужонстваў, нацыянальнай ідэнтыфікацыяй, касцёлам і царквой, адносінамі да ПНР і камунізму, Польшчы і Расіі. Я думаў аб тым, як пра гэта сказаць у кнізе. Падумаў: няхай героі гавораць па-свойму, на беластоцкай мове. А калі я пачаў гэта запісваць, вярнуліся да мяне тыя запамятаныя словы, столькі часу нявыказваныя. Вярнулася мелодыя мовы. Шмат з беластачан гэтай мовы сароміцца. Шмат іх лічыць яе другараднай, горшай ад афіцыйнай, літаратурнай. Але адраджаецца мода на гэтую мову. Своеасаблівае адраджэнне шматгалоснасці Падляшша і тая шматгалоснасць уваходзіць у шырокі абсяг літаратуры і культуры. Іншыя аўтары на розныя спосабы ўдала гэта выкарыстоўвалі ў кнігах, на радыё, у тэатры. Гэта вельмі каштоўнае, што Падляшша гаворыць сваімі шматлікімі галасамі. Каталіцкі касцёл да сёння абараняе польскасць Падляшша перад „чужой рускай і праваслаўнай стыхіяй”. Пануе ў нас афіцыйная шматкультурнасць, аднак я глыбока перакананы ў тым, што гэты асаблівы культурны клімат прыдае Беластоку польскасць-рускасць якраз. Гэта вельмі арыгінальны і непаўторны козыр на карце Польшчы і Еўропы. Гэта сувязь вельмі дынамічная, і, як у гісторыі, заадно крывавая спрэчка, як і жыццёвая неабходнасць — супольнае жыццё на адным абшары. Гэта яшчэ неперароблёная тэма. Сёння, вядома, іншы час, аднак варта прыгадаць, што пры пачатку Вялікага Княства Літоўскага (значыць і на частцы зямель сённяшняга Падляшша) дзяржаўнай мовай была старадаўняя беларуская мова. З некалькіх гіпотэз паходжання слова Падляшша, ёсць такая, што Падляшша гэта землі, якія ляжалі не „пад лесам”, а землі „пад ляхамі” (Podlachiae), значыць, ляжаўшыя паблізу зямель ляхаў, палякаў...

*Piwonia, niemowa, głosy*, выдавецтва Nowy Świat, Варшава 2012, сс. 272.

# З ЛЮДМІЛАЙ ГРЫГАРУК

***— настаўніцай беларускай мовы ў гайнаўскай „шасцёрцы”, якая 9 лістапада г.г. падрыхтавала „Праводзіны восені”.***



**„Зорка”:** *— Вы — аўтарка сцэнарыя „Праводзіны восенні”?*

**Людміла Грыгарук:** — Сцэнарый мы апрацавалі разам з дзецьмі. Яны гаварылі, што ім найбольш падабаецца, таму тут апынуліся сцэнка, дэкламацыі, песні і гульні. Песню пра восень, якую спявалі сёння аж два разы, яны ўпадабалі неяк асабліва, з першага разу. І цяпер пастаянна хочуць яе спяваць на кожным уроку і перапынку.

**З:** *— Значыць, патрапілі ў густ?*

**ЛГ:** — Важна, каб дзецям падабалася тое, што робім. Тады яны ангажуюцца, вельмі перажываюць...

**З:** *— Гэта відаць па жыццярадаснай каляровай дэкарацыі, па хваляванні і трэме дзяцей у час выступленняў...*

**ЛГ:** — Мы разам малявалі і складалі восеньскія насценныя газеты і ўсе рэквізіты да спектакля і гульняў, упрыгожвалі залу. Дапамагала нам таксама другая настаўніца беларускай мовы, спадарыня Бэата.

**З:** *— Сярод „восеньскага” дэкору Вы захавалі Пагоню.*

**ЛГ:** — У нас тры Пагоні. Адну вывешваем на Свята Волі — 25 сакавіка, іншую намалявалі вучні і аздабляе яна школьную насценгазету. А гэты герб, што вісіць ля папараці, пастаянны матыў нашай беларускай залы, таму яго не кранаглі.

**З:** *— Хто падрыхтаваў такія смачныя пірагі, „шарлёткі”, і гэтыя чыпсы з сушаных яблык?*

**ЛГ:** — Усё падрыхтавалі нашы бацькі. Вельмі прыемна, што яны разам з намі перажывалі гэтае свята і як маглі дапамагалі. Я вельмі ўдзячная ім за гэта.

**З:** *— Ці ладзіце іншыя святы, звязаныя з паравінамі года?*

**ЛГ:** — Нядаўна, разам з пятым класам, мы рыхтавалі „Урок пра хлеб”. Гэта была таксама вельмі жывая, дзелавая сустрэча. Усе моцна ангажаваліся. Тут вельмі дапамаглі бабулі вучняў, якія спяклі свойскі хлеб і многа ўсякіх булачак. Дзеці падрыхтавалі літаратурныя творы і народныя прыказкі пра хлеб.

**З:** *— А як выглядае ў школе цікавасць да беларускай мовы?*

**ЛГ:** — У нас у школе больш чым палова вучняў ходзіць на беларускую мову, напрыклад, з гэтых чацвёртых, што сёння выступалі, маем аж 25 вучняў. Яны ўважлівыя, вельмі любяць беларускія вершы, песні, любяць выступаць у пастаноўках. Трэба сказаць, што падыход да мовы памяняўся ў карысны бок. Бацькі гэтых дзетак у большасці прадстаўнікі элітных прафесій...

**З:** *— У традыцыі Вашай школы — „Дзень беларускай культуры”. Ці плануеце такое мерапрыемства ў гэтым годзе?*

**ЛГ:** — Гэта вельмі вялікае мерапрыемства. Тут патрэбная ангажаванасць многіх настаўнікаў. Але яно вельмі патрэбнае. Будзем рабіць усё, каб яно адбылося.

**З:** *— Дзякуем за размову!*

**ЛГ:** — Дзякуем! Будзем чакаць артыкула пра нас у „Зорцы”.

# *Мой першы настаўнік*

Кожную восень я вельмі люблю хадзіць па лесе, шукаць грыбоў і раздумваць над прамінаннем. Асабліва любы мне тыя дарожкі, якія ўбачыў упершыню і па якіх крочыў разам са школьнымі сябрамі і першым настаўнікам.

Падобна як маці і бацька, так і першыя настаўнікі назаўсёды застаюцца ў памяці. Шэсцьдзесят гадоў таму мне прыйшлося ісці ў школу і сесці за парту. З маёй Альхоўкі выехала настаўніца, а на яе месца вучыць дзяцей у мясцовай чатырохгодцы прыбыў высокі, мажны настаўнік Міхал С.

Новы настаўнік паходзіў з Сямятыцкага павета, а дакладней — з Грабаркі, што ў Мілейчыцкай гміне. Я, як і ўсе першакласнікі, баяўся школы і настаўніка, які гаварыў выключна папольску, бо дзяржаўная школа была польская, а беларускую мову як прадмет пачыналі вучыць у другім класе.

Мой настаўнік любіў прыроду і часта вадзіў вучняў у лес, які знаходзіцца недалёка ад вёскі. Ад настаўніка я пачуў, якія дрэвы і расліны растуць у пушчы, якія грыбы трэба збіраць і як шанаваць прыроду. На лясной паляне вучні з настаўнікам гулялі ў мяч, бегалі, скакалі.

Вечарамі Міхал С. пры газавай лямпе вучыў дарослых альхоўцаў чытаць, пісаць, рахаваць; так у той час ліквідавалася непісьменнасць сярод насельніцтва. Старэйшыя жыхары вёскі шанавалі настаўніка за тое, што ён умеў складаць і множыць дробы (ułamki) ды вылічаць працэнты.

Міхал С. працаваў у Альхоўцы тры гады, а пасля пераехаў у Гайнаўку. Павятовыя ўлады дацанілі яго працу і паставілі на пасаду павятовага школьнага інспектара. З першым маім настаўнікам я зноў стаў сустракацца, калі пайшоў у гайнаўскі ліцэй. У інспектара было шмат польскай літаратуры і я хадзіў пазычаць у яго патрэбныя для прачытання кнігі.

На кватэры ў Міхала С. жыў мой аднагодак, вучань ліцэя Стэфан. Паходзіў ён з Беластока і быў нейкім далёкім сваяком інспектара. Як большасць ліцэістаў таго часу Стэфан любіў у вольны час гуляць у карты, забаўляцца драўлянымі пісталетамі. Адзін раз ён мяне трошкі напалохаў. Калі я зайшоў на кватэру, ён нечакана дастаў з кішэні пугача, наставіў на мае грудзі і строга сказаў: „Стой, страляць буду!”. Я на хвіліну збянтэжыўся, але тут жа зразумеў, што ён жартуе, што ягоны „пісталет” з’яўляецца адмыслова выразаный з драўніны забаўкай. На падаконніку ляжаў яшчэ адзін цацачны пісталет і калода карт.

Калі верыць фаталістам, то карты і пісталеты прыносяць людзям няшчасці. Таму ў школах і добрых сем’ях не дазвалялі моладзі гуляць у карты. Але што было рабіць вечарамі, калі яшчэ не было тэлебачання?

Інспектар пасля працы ляжаў, чытаў, нешта перадумваў. Ягоная праца была адказная — яго зналі ва ўсім павеце як галоўнага інспектара асветы і культуры. Гэта ён мне параіў паступіць у двухгадовую настаўніцкую студыю, каб атрымаць прафесію настаўніка і потым працаваць у школе. Тады ў кожнай большай вёсцы была васьмігодка і патрабаваліся маладыя настаўнікі. Я паслухаў інспектара і паспяхова закончыў настаўніцкую студыю ў 1967 годзе. У тым жа годзе раптоўна абарвалася і жыццё майго першага настаўніка...

Ранняй вясной у Беластоку, на вуліцы Сянкевіча, я спаткаў Стэфана і даведаўся, што ён ідзе на службу ў міліцыю, а ў маі сустрэўся з інспектарам, які прыехаў у настаўніцкую студыю заключаць з маладымі настаўнікамі кантракты на працу. Абяцаў ён мне, што возьме мяне на працу ў адпаведную школу; не ведаў я, што бачу яго апошні раз.

Прайшло два тыдні і ў беластоцкай штодзённы прачытаў я, што ў Гайнаўцы загінуў трагічна ад шалёнай кулі школьны інспектар Міхал С. Я быў шакіраваны, не мог зразумець, як мог загінуць 40-гадовы цалкам здаровы мой першы настаўнік.

Людзі гаварылі, што ў цёплую майскую суботу адведаў інспектара малады міліцыянер Стэфан. Прыехаў ён са службовым — сапраўдным — пісталетам. Сведкаў не было і ніхто не мог сказаць, як выстраліў пісталет і смяротна параніў гаспадара кватэры Міхала С.

Стэфан вельмі шкадаваў таго, што здарылася; засудзілі яго на некалькі гадоў турэмнага зняволення. Ніколі больш яго я не сустрэў.

Мой першы настаўнік ужо 45 гадоў спачывае на праваслаўным могільніку ў Гайнаўцы ля ўваходнай брамы. На здымку ён вельмі малады і пазірае на шашу Гайнаўка — Белавежа, па якой безупынна калясяць аўтамашыны, а вакол шуміць прыгожы лес.

У Альхоўцы яшчэ жывуць вучні Міхала С. і час ад часу ўспамінаюць свайго настаўніка.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

# *Аўтарская сустрэча*

15 кастрычніка ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы адбылася сустрэча з пісьменнікам, ураджэнцам Чаромхі-Станцыі Веславам Разбіцкім. Мерапрыемства праходзіла пад загалоўкам „Дзяцінства нашых дзядоў” у рамках праекта „Кірыліцай пісанае”. У сустрэчы ўдзельнічалі вучні III а, б, ц класаў Пачатковай школы № 6 у Гайнаўцы са сваімі настаўніцамі. Аўтар пазнаёміў прысутных са сваёй біяграфіяй і творчасцю. Вядомасць аўтару прынесла кніжка „Жураўейка”. У час дыскусіі ўдзельнікі дзяліліся ўспамінамі і рэфлексіямі са свайго дзяцінства. Сустрэча была арганізавана пры фінансавай падтрымцы Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі.

***(ус)***

http://muzeumbialoruskie.hajnowka.pl/



Веслаў Разбіцкі апавядае пра сваё дзяцінсва і школьныя гады

# Успамін пра маму



Мая мама Аляксандра Далінская нарадзілася 2 лістапада 1930 года ў беднай сялянскай сям'і ў вёсцы Гусакі, што на Бельшчыне. Калі ёй споўнілася шэсць гадоў, памёр яе тата Аляксей. Да яе мамы Хрысціны праз нейкі час прыступіў жыць прыезджы мужчына Харытон. У мамы паявіліся зводныя браты Мікалай і Пятро ды сёстры Яўгенія і Вольга. Калі маме споўнілася 26 гадоў, прыйшла яна на хутар Зубава і з маім татам Міхаілам станавілі сям'ю. Зямлі было вельмі мала, цяжка і бедна жылося. Нейкі час не было нават каровы і бабуля Хрысціна мне маленькай прыносіла малако. Ішла яна пехатою недзе 14 кіламетраў. Мама расказвала, што рабіла большую дзірку ў сосцы і так я піла малако, калі яно скісла. У 1959 годзе нарадзіўся мой брат Сцяпан. У нашай сям'і была ўжо карова, дакупілі зямлі. У 1960 годзе памерла мая бабуля Вольга, а ў 1968 годзе дзедка Ян. Калі мы з братам Сцяпанам падраслі, сталі дапамагаць бацькам у гаспадарцы. Хадзілі на заробкі садзіць лазу, да жніва, рваць лён. У маёй памяці застаўся ўспамін, калі мама давала мне і брату грошы на цукеркі і цацкі пры нагодзе святочных фэстаў. Бацькі садзілі цукровыя буракі і трускалкі. Мы, будучы дзецьмі, палолі іх, было спякотна і цяжка, а мама спявала песні і таксама давала грошы. Вельмі памятаюцца мне пасхальныя мазуркі, прыбраныя каляровымі салодкімі гарошкамі, свежы духмяны хлеб і пернічкі „катажынкі" ды піроўнае „пці-бэр". Пачатковую школу мы закончылі ў Зубаве, вучыліся добра і мама была намі задаволеная. Потым пайшлі вучыцца ў сярэднія школы, я ў Бельск-Падляшскі, а брат у Беласток. Мама клапацілася, каб наняць нам кватэры, купіць вопратку, кніжкі і гэтак далей. Не скажу, што тата не цікавіўся нічым, але ўсе хатнія і канцылярскія справы былі на мамінай галаве.

Ішлі гады, а мы наведвалі бацькоў, асабліва ў час летніх і зімовых канікул, дапамагалі ў час сенакосаў, жніва, малацьбы і г.д. Калі закончылі працу ў сябе на полі, а ішла хмара, мама казала, што трэба дапамагаць суседзям. Яна сама з дзіцячых гадоў вельмі цяжка працавала — за місачку мукі трэба было сярпом увесь дзень жаць збожжа. Хачу сказаць, што ў маіх бацькоў не было такіх машын як цяпер, і праца была нялёгкай. Мама даіла кароў і штодня несла малако ў злеўню ў Зубава — каля 2 кіламетраў. Самы жорсткі ўспамін з жыцця мамы гэта чэрвень 1942 года, калі немцы спацыфікавалі і спалілі вёску Райск, якая знаходзіцца некалькі кіламетраў ад Гусакоў. Мама гаварыла, што вечарам стаяла чырвоная сцяна агню, вецер даносіў крыкі і трэск палаючых дамоў. Штосьці страшнае! У 1987 годзе трагічна загінуў на матыцыкле мой брат Сцяпан, асіраціў двое дзяцей ва ўзросце 3 і 4 гадоў. Нам усім гэта быў вялікі шок і адгэтуль мая мама пачала хварэць неўрозам і на сэрца. Няма ж большага гора чым пахаваць сваё дзіця. Я надалей памагала ў гаспадарцы. Неўзабаве бацькі перайшлі на пенсію. У 1998 годзе памёр мой тата Міхаіл і мама засталася жыць на хутары адзінока. Наведвалі яе суседзі, асабліва сям'я Федарукоў з Кназазоў. Кожную суботу прыязджала я з сям'ёй, прывозіла ежу, вопратку, мыла і перапранала, на зіму пахтавалі дровы, вазілі маму да лекара ў Бельск і часам да знаёмых. Бывала і так, што находзілі яе цыганы і здарылася пакража, аднак мама са сваёй хаты не хацела пераехаць у Бельск да мяне. Паўтарала: „Родная хатка як свая матка". Мама любіла жартаваць, любіла і людзей. Нягледзячы на цяжкасці лёсу, яна заставалася ветлівая, вясёлая і сардэчная. Успамінала, калі ў пачатковай школе дэкламавала вершы, усе яе слухалі з вялікім зацікаўленнем. Апошнія тры зімы былі снежныя і марозныя. Мы ўсе дапамагалі маме пераждаць гэты час, палілі печку-сцяноўку, адкідвалі снег. Маму асабліва наведваў сусед Яўген Аўсянюк. Найдаўжэйшыя былі асенняя і зімовыя вечары. Пасля зімы прыходзіла вясна і наш хутар быў цудоўны, поўны красы кветак, шумлівых ніў і пералівага спеву птушак. І вось 4 мая гэтага года здарылася бяда, мама ўпала на сходках на панадворку і зламала нагу. Аперацыю прайшла, але захварэла на запаленне лёгкіх і з гэтай хваробы не выйшла. Памерла 10 чэрвеня на 82-м годзе жыцця.

Калі я пасля яе смерці наведваю дом на хутары, не магу паўстрымаць ад слёз. Тут цяпер уладарыць маўчанне, вяртаюцца ўспаміны, маё дзяцінства і маладосць. Калі задумаюся над жыццём, хачу сказаць, як непрыкметна прайшло 14 гадоў яе жыцця ў адзіноцтве пасля смерці таты. Да канца не хацела яна прыняць гарадскіх выгод, што я і не напрасілася. Можна б сказаць, што жыла яна як пустэльніца, пераносячы ўсё добрае і дрэннае, пякучае сонца і сцюжы. Мая мама — гераіня і самая цудоўная. Вечная памяць Табе, дарагая Мама.

Жэня МАРТЫНЮК




„Ніва" неаднойчы пісала пра разнастайныя беларускія музеі, што маюць свае сайты ў інтэрнэце. Наведваючы віртуальныя прадстаўніцтвы такіх установаў можна, не адыходзячы ад камп'ютара, пабачыць галоўныя іх экспанаты, выставы, ды і папросту пазнаёміцца з магчымасцю рэальнага наведвання, пабачыўшы дакладны адрас і час працы.

Сёлета ў інтэрнэце з'явіўся яшчэ адзін музейны сайт. Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей адчыніў свае дзверы для камп'ютарных карыстальнікаў. І трэба адзначыць, што сярод сайтаў беларускіх музеяў ён, бадай, найлепшы і найпрыгажэйшы.

Месіцца віртуальнае прадстаўніцтва гродзенскага музея па адрасе **www.museum-grodno.by**. Магчыма, некаму з чытачоў даны адрас падасца знаёмым. Тут, як кажуць, няма дыму без агню. Калісьці, каля пяці гадоў таму, па амаль аналагічным адрасе **www.museum-grodno.by.ru** месціўся сайт музея Васіля Быкава, які таксама гродзенскі. Пра яго „Ніва" пісала ў нумары ад 29 красавіка 2007 года. Аднак цяпер па даным адрасе нічога няма.

Што ж тычыцца сайта гісторыка-археалагічнага музея, то ён уражвае сваёй неардынарнасцю, выкарыстоўваннем флэш-анімацыі, ды і проста прыгожым каляровым афармленнем. Так, на першай старонцы сайта перад намі месціцца выява брамы з металічных прутоў, за якой бачна дарога і будынак музея. Слова „Увайсці" нібыта заклікае клікнуць на яго мышкай, каб брама адчынілася.

На першай старонцы даецца магчымасць „наведаць" музей па-беларуску, па-руску і па-англійску. Праўда, рэалізаваць даную магчымасць можна толькі на дзвюх першых мовах. Англійскі варыянт аказваецца звычайнай спробай праз „Гугл" зрабіць пераклад з беларускай на мову Шэкспіра. Прычым спроба абсалютна няўдалая, бо ў выніку з'яўляецца тэкст беларускай лацінкай з украпленнямі англійскіх слоў.

Калі мы „ўвойдзем" у віртуальную браму музея, то перад намі адкрыецца невялікі тэкс-расповед аб установе. „Адзін са старэйшых і буйнейшых у рэспубліцы музеяў быў заснаваны ў 1920 годзе. Яго экспазіцыі размяшчаюцца ў Гродзенскіх каралеўскіх палацах XVI-XVIII стст. і доме майстра XVIII ст. на Гарадніцы. У пастаяннай экспазіцыі музея каля 7 000 прадметаў", — распавядаюць пра свой музей яго супрацоўнікі. Побач тэксту карыстальнік мае магчымасць паглядзець некалькі фотаздымкаў аб музеі.

У адрозненні ад большасці сайтаў, на галоўнай старонцы сайта гродзенскага музея выйсці на іншыя рубрыкі схаваныя. Каб іх раскрыць, трэба клікнуць на слова „Навігацыя", што месціцца ў рамцы з левага боку. Тады ўніз „выязджае" мноства выйсцяў да такіх старонак як, напрыклад, „Аб'екты", дзе расказваецца пра асобныя падраздзяленні музея, „Паслугі", дзе прапануюцца разнастайныя віды экскурсій і не толькі, напрыклад, урачыстая рэгістрацыя шлюбу ў сценах музея.

Пэўна, кожнаму інтэрнэт-карыстальніку быў бы цікавым віртуальны тур па музейных залах. Тым больш, што выйсце на такую старонку ёсць, але калі мы клікаем на яе, то аказваецца, што гэты тур яшчэ знаходзіцца ў распрацоўцы.

Ну, а каб распланаваць сваю рэальную вандроўку да музея, варта скарыстацца інфармацыяй са старонкі „Кантакты". Там падаюцца як тэлефоны гэтай установы, так і гадзіны працы.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## БЕЛАРУСІ Скарбы

### Багатыя Гервяты

Мястэчка Гервяты размешчана на самай поўначы Гродзенскай вобласці. Сёння гэта частка Астравецкага раёна, сумежжа з Літвой. Гэта адна з нешматлікіх вёсак, дзе кампактна анклавам пражываюць нашчадкі колішніх жмудзінаў, падобна як у Пуньску на Сувальшчыне. Таму па-іншаму вёску называюць „Гервячай". Галоўная славутасць гэтай мясціны — высачэзны неагатычны касцёл-прыгажун. Яго называюць „беларускі Нотр-Дам", а прылеглую тэрыторыю — то „маленькай Швейцарыяй", то „Эдэмскімі садамі". Можа невыпадкова непадалёк ёсць і вёска з рэальнай назвай Палесціна.

Вышыня галоўнага шпіля храма сягае да 61 метра. Гэта адна з найбольш высокіх культавых пабудоў не толькі нашай краіны, але і ўсяго еўрарэгіёна. Але тое, што можна ўбачыць вакол касцёла, таксама па-сапраўднаму ўразіць кожнага падарожніка. Такую прыгажосць, як мясцовы парк са скульптурамі апосталаў, маюць толькі найбольш багатыя гарады кантынента — Рым, Вена...

Наконт паходжання назвы мясцовасці няма адзінай версіі. Гіпотэзы змешваюць балцкія значэнні сугучных слоў са славянскімі і нават фіна-вугорскімі. Першая пісьмовая згадка пра Гервяты датуецца 1434 годам. У 1526 годзе віленскі біскуп Ян заснаваў тут першы драўляны касцёл. Мураваны Свята-Троіцкі касцёл, які ёсць зараз, забудоўваўся на стыку XIX і XX стагоддзяў коштам князя Альшэўскага. Матэрыял на пабудову бралі з мясцовай цагельні, якая прадуквала надзвычай трывалую цэглу. Вапну здабывалі з бліжняй ракі, а ў рошчыну, паводле аповедаў мясцовых жыхароў, дадавалі яйкі. І толькі дахоўку нібыта везлі з Нямеччыны.

Яшчэ адзін адметны помнік Гервятаў — гэта вадзяны млын XIX ст., які стаіць на беразе ракі Лошы. Ён быў пабудаваны па характэрнай для Нямеччыны і досыць рэдкай для Беларусі тэхналогіі фахверка. Пры такой пабудове каркас будынка пакідаецца бачным. Ён замуроўваецца, а фасад пры тым падзяляецца на панелі рознай формы. Падобны млын некалі дзеіў таксама ў мястэчку Жодзішкі, а выкарыстоўваліся яны для выпрацоўкі электраэнергіі. У апошні час у гервяцкім млыне месцілася медыцынская ўстанова.

Гервяты — выдатны прыклад местачковага экуменізму і нацыянальнай згоды. На касцёле можна пабачыць абвесткі па-беларуску, а імша праходзіць пераважна па-літоўску, часам па-польску. У побытавай мове, як і ўсюды на вёсках, пераважае трасянка. З асоб мінулага Гервятаў варта згадаць беларускага каталіцкага святара Станіслава Хадыку, які быў вязнем савецкіх канцлагераў, а пазней жыў тут ажно да сваёй смерці.

А яшчэ Гервяты вядомыя сваім мясаперапрацоўчым комплексам. Тамтэйшыя кансервы з ялавічыны да нядаўняга часу былі самыя смачныя ва ўсёй краіне, толькі зараз іх можна знайсці ўсё радзей. Магчыма, адбылася нейкая пераарыентацыя паставак.

У пачатку аднаўлення беларускага суверэнітэту — у 1990-ыя гады — Гервяты зазналі сапраўднае абуджэнне і адраджэнне. Тут адбываліся культурніцкія сустрэчы, праводзіліся канферэнцыі. Зараз перспектыва мястэчка, дзе пражывае каля паўтысячы жыхароў, досыць туманная. Усяго ў васьмі кіламетрах адсюль — паблізу Варнянаў — пачынае будавацца непрадказальная па сваіх наступствах атамная станцыя. Багатая па архітэктурныя помнікі і прыродныя мясціны зямля разам з людзьмі становіцца заложнікамі палітычна-эканамічных праектаў.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Bulbamovie — бульба кажа




Што шэраговы паляк ведае пра беларускае кіно? Большаць не ў стане назваць хаця б аднаго прозвішча, ці хаця б аднаго фільма. Беларусь наогул (на вялікі жаль) асацыюецца выключна з занудным камунізмам ды задзяўбаным народам. Веды пра гэтую краіну абмежаваныя пастаяннымі падтасоўкамі выбараў, безвыніковымі «плошчамі» ды сяброўскімі адносінамі з іншымі таталітарнымі краінамі. Гэтага дастаткова, каб не цікавіцца болей.

Януш Гаўрылюк праз свой фестываль спрабуе перааддольваць гэтыя стэрэатыпы. Паказвае ён нашых усходніх братоў у іншым ракурсе. Ён дае шанс паглядзець вельмі добра зробленыя фільмы, сустрэць цікавых і разумных людзей ды самае важнае — пазнаёміцца з беларускай рэальнасцю «з усімі сваімі прусакамі, маракасамі і абрыкосамі».

У час гэтага, ужо другога, фестывалю мы мелі магчымасць паглядзець дваццаць дзевяць фільмаў. Зусім розных фільмаў — мяняліся ў іх і тэмы, і жанры, і якасць стужак. Гэтую стракатую карціну спакойна можна назваць «Беларусь для пачаткоўцаў».

У гэтым годзе арганізатары зрабілі стаўку на конкурсную частку, але нават яны не спадзяваліся, што дзевятнаццаць фільмаў да фінальнай праграмы прыйдзецца адбіраць з больш чым шасцідзесяці заяўленых карцін. Атрымалася — дзевятнаццаць карцін маладых творцаў у большасці звязаных з беларускай Акадэміяй мастацтваў і мінскай кінашколай. Кожная з гэтых стужак мела свае адметныя моманты — або захапляла гісторыяй, або цудоўнымі здымкамі, або цікавай музыкай, або выдатнай працай акцёраў.

Нечаканасцю нават для дырэктара фестывалю было рашэнне журы — пакінуць «Залатую бульбу» на месцы — тобок не называла лепшага. Замест гэтага «Сярэбраную бульбу» раздзялілі дзве карціны — «Простыя Рэчы» Арцёма Лобача і «Жыццё ў клетчатой сумке» Андрэя Палупанава. «Бронзавую бульбу» і адмысловую ўзнагароду тэлеканала Белсат атрымаў Алесь Лапо за дакументальную стужку «Вандроўнік не вернецца». Спецпрыз ад журы атрымала Лена Сілюціна за фільм, які найлепш прыняла публіка кінафестывалю — «Каханне гэта...».

Максім Жбанкоў, калі аб'яўляў вынікі конкурсу, адзначыў, што не было паказана ні аднаго фільма, які б скарыў усіх, але што ёсць шмат кіношнікаў, якія з'яўляюцца пераможцамі заўтрашняга дня.

Пасля паспяховых прэзентацый кіно, дзякуючы аднаму з арганізатараў Пятру Дудановічу, госці фестывалю і любіцелі беларускай культуры маглі ўдзельнічаць у «Bulbamusic» — музычным спадарожніку кінафестывалю. У пятніцу 26 кастрычніка ў варшаўскім клубе «Вэтліна» выступалі гарадзенскія гурты «Дзецюкі» і «КальЯн», а ў наступны дзень — «Людзі на балоце» і Паліна Рэспубліка, якая адмыслова памяняла словы сваёй вядомай песні і праспявала «Варшава. Сабака. Снег».

У беларускага кіно бачна патэнцыял, яно мае крэатыўных творцаў. Заўважна гэта не толькі ў іх працах, але таксама ў іх паводзінах, падыходзе да жыцця, пачуццёвасці. Магчыма, фестываль не паказаў гітавых прарываў — карцін, якія спадабаліся б так масавай публіцы, як і аматарам фільмавых нішаў. Аднак, як сказаў Андрэй Расінскі, «беларускае кіно — яно як трава, якая вырастае з-пад асфальта», таму разам з кінакрытыкам чакаем, што праз год аб'явіцца яно ў поўнай славе.

Оля Наташа СКУПІНСКАЯ

*Аўтарка дзякуе Пятру Дудановічу за дапамогу ў перакладзе*

# ЗАПРАШЭННЕ

Дыскусійны клуб „**АБ-БЫ**”

*Пагаворым пра кіно на памежжы*

Прэзентацыя фільма

**«Тандэмам праз памежжа»**



і сустрэча з яго сааўтарам **Радаславам Дамброўскім**

**16.11.2012** (пятніца) $18^{00}$

**Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА**

Пачатковая школа № 4 у Беластоку

вул. Чэнстахоўская, 6а

Projekt realizowany dzięki dotacji Marszałka Województwa Podlaskiego

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — сербскую пагаворку.

1. травяністая трапічная расліна — дэкаратыўная і для здабывання валакна(*Agave*) = 27 _ 26 _ 10 _ 11 _ 31 _;
2. без яго дыму не бывае = 8 _ 7 _ 6 _ 5 _ 47 _;
3. будаўнічы матэрыял, які цвярдзее пасля ўкладкі = 34 _ 32 _ 17 _ 18 _ 37 _;
4. жмут саломы = 28 _ 29 _ 41 _ 40 _ 15 _ 16 _;
5. птушка, сімвал міру = 39 _ 38 _ 42 _ 43 _ 21 _;
6. горад між Тбілісі і Цхінвалі, родны Іосіфу Вісарыёнавічу Джугашвілі = 9 _ 12 _ 13 _ 14 _;
7. будынак для жылля = 30 _ 35 _ 36 _;
8. адзінка электрычнага супраціўлення = 22 _ 23 _;
9. асобная кніжка выдання збору твораў = 2 _ 3 _ 4 _;
10. в'етнамская сталіца = 1 _ 20 _ 24 _ 25 _ 19 _;
11. рака з Украіны ў Сербію = 46 _ 45 _ 44 _ 33 _.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | 3 |
| | | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | | 17 | 18 | 19 |
| | | | | | 20 | 21 | 22 |
| | | | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |
| | | | | | 33 | 34 | 35 |
| | | | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 |
| | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 42 нумара**

Пацей, стыхія, раяль, рубель, нота, альбом, здача, ягада, кіт, парад, меднік, цыферблат, Расія.

Рашэнне: **У багатых няма дзяцей, толькі спадкаемцы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 18.11 — 24.11

**(22.03. — 20.04.)** Шлюб у гэтым тыдні прынясе шчаслівае сужонства. Заляціць табе ў галаву пару талковых ідэй як крыху падзарабіць. Цяпер вельмі спрыяе табе фартуна! Ды будзеш жыць у вельмі вялікай напрузе, могуць пусціць табе нервы, выведуць цябе з раўнавагі дробязі (апагей — 21-25.11.) З 22.11. (да 26.11.) будзеш вельмі працавіты, выклічаш захапленне.

**(21.04. — 21.05.)** У гэтым тыдні можаш зрабіць вельмі шмат, ды не бярыся за ўсё адразу. На грошы не будзеш наракаць, часам будзе табе здавацца, што табе сніцца глядзячы на рахунак. Будзеш ззяць на сямейных імпрэзах. Пасля 20.11. чакае цябе прыліў натхнення; не раздумвай, ці ёсць у цябе талент, рабі тое, што дае табе радасць!

**(22.05. — 22.06.)** Да 22.11. маеш вялікую падмацоўку зорак. З 21.11. да канца месяца — таксама і ў красе; вельмі добра падзейнічае на цябе касметыка. Будзь гатовы таксама да прыходу нязваных гасцей (могуць гэта быць і... мышы, тхары ці куніцы). Можаш узброіць сваю кухню ў пару сучасных прылад. Настаў свой радар на плёткі — можа трапіцца добрая новая праца.

**(23.06. — 23.07.)** На грошы не будзеш наракаць, ды не купляй нічога неабдумана. Тыдзень неспакойны, які можа прынесці турботы ў кантактах. Не абяцай больш чым можаш зрабіць, каб не пашкодзіць сабе ў фінансах. Затрэсні дзверы перад тым, хто схоча адняць у цябе каштоўны час ці выкарыстаць тваё спрыянне. Твая рашучасць і цвёрдасць захаваюць цябе ад лішніх праблем. Асабліва ў чацвер хтосьці схоча сесці табе на шыю.

**(24.07. — 23.08.)** Прыспешыш тэмп на працы так, што цябе не дагоняць (лепш займайся індывідуальна). Можаш спадзявацца ўдзячнасці за тваё дабро. 20-24.11. можаш стаць ахвярай інтрыг або дацца ўцягнуцца ў чужы канфлікт. Еж вітаміны і часнок, купайся ў солі, кладзі маскі на твар. У аўторак не еж цяжкага.

**(24.08. — 23.09.)** Шчопаць шчасця адкрые перад табою вялікія магчымасці. Вучы мовы, гэта спатрэбіцца табе ў кар'еры. Тваім тузом акажацца адукацыя. 18-22.11. не бойся адважных рашэнняў, напэўна не страціш. 19.11. можаш наладзіць карыснае знаёмства. Прымірэнне з любай асобай.

**(24.09. — 23.10.)** Пазбягай цяпер размоў аб змене работы (не здзейсняцца абяцанні). З грашыма добрая цяга, ды правярай кожную дамову, нічога не падпісвай не прачытаўшы. У жыцці самотных Шаляў знойдзецца нагода для флірту. Выбірайся на свежае паветра, прысвяці час свайму здароўю. У пятніцу не купляй посуду, бо хутка пераб'ецца.

**(24.10. — 22.11.)** З 22.11. будзеш у фантастычным настроі і знакаміта дагаворышся з іншымі. Твае рашэнні павінны быць самастойныя, нават калі іншыя будуць супраць (толькі не вырашай за іх). Ды можаш страціць цяпер немалыя грошы; адкладзі вялікія пакупкі. Займіся сваім выглядам. Працуючы над новым праектам, трымай язык за зубамі. У чацвер не падымай нічога з зямлі.

**(23.11. — 22.12.)** Моцна пільнуйся ад кантузій і аварый 21-25.11., будзе балець табе спіна (ад высілку). 21.11. адважна справішся з кожным выклікам. Удачы ва ўсіх справах. Вольныя Стральцы будуць ведаць, чаго хочуць і чаго не, і дарэмнымі будуць захады асобы, якая ім будзе не пад густ; затое заляціць ім у вока цяжкая для здабыцця асоба (не паказвай адразу ўсіх сваіх картаў).

**(23.12. — 20.01.)** Добры таксама пачатак тыдня. З 22.11. (да 26.11.) прыйдзе да цябе прызнанне, дакажаш свае рацыі, захопіш, твае сапернікі адпусцяць, а твае выбары будуць трапныя. У панядзелак будзь асцярожны на лесвіцы. У сераду дапоўні ці змяні свой гардэроб.

**(21.01. — 19.02.)** Пойдзеш уверх па рэйтынгу на працы. Еж больш кашы і бабовых. З 24.11. (да 28.11.) пачнеш рэалізаваць усе свае намеры, ажыццявіш фантастычныя задумы і здзейсніш свае мары. У пятніцу магчымая рамантычная сустрэча з чалавекам здалёк.

**(20.02. — 21.03.)** Не ары 24 гадзіны ў суткі! 20-24.11. зробіш добрае ўражане на атачэнні, здабудзеш усё, на чым табе залежыць. Магчымыя сумесныя праекты нават з былымі канкурэнтамі. Трымай сябе ў руках — вельмі шмат будзе залежаць ад тваёй памяркоўнасці. Пятніца добрая для перасялення.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.

**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Ратуйма Украіну, хлопцы! (4)




**На вуліцы, сярод нядзельнага натоўпу ў Драгобычы прахаджваўся жэшкі дзед у барэтцы і апранахах з сярэдзіны мінулага стагоддзя. Ён зачапляў мужчын, перакідваўся слоўцам, жыва вымахваў рукамі. Ветэран УПА не выклікаў сенсацыі, наадварот, здавалася, што яго не прыкмячаюць...**

— Магчыма, прыехаў на святкаванне, з Канады, — разважаў уголас нехта з мінакоў.

Праз тры дні ў горадзе мела пачацца шумнае святкаванне 70-й гадавіны УПА. З гэтай нагоды ўсе слупы і дрэвы былі абчэплены чырвона-чорнымі лістоўкамі і плакатамі з крыклівым зваротам: *Памятайма, шануйма, наследуйма няскораных!*

Юбілей адкрывала канферэнцыя, якая мела адбыцца ў актавай зале галоўнага корпуса Драгобыцкага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта. Дзень пазней арганізатары склікалі народ у філармонію на вечар паўстанцкай песні. Тут жа паказвалі фільмы пра УПА і адкрывалі новыя фотавыстаўкі. Чатырохдзённае святкаванне завяршаў Марш славы УПА.

Юбілей у гонар *няскораных патрыётаў* (якія афіцыйна непрызнаныя ва Украіне), арганізавалі студэнцкія і моладзевыя арганізацыі. Маладыя хлопцы і дзяўкі, часта ў вышыванках, выседжвалі таксама ў выбарчых палатках Кангрэса нацыяналістаў. Праўда, больш чым на патэнцыяльных выбаршчыкаў яны заглядаліся на самых сябе, і гэтая эратычная нотка застаўляла думаць пра іх як пра нармальных людзей.

* * *

Нядзеля, восем гадзін раніцы. У цэнтры горада адчувалася ранняе мегапахмелле. Ля бараў выстойвалі групы мужчын сярэдняга ўзросту, курылі папяросы і рагаталі аж трашчала паветра. У бок царкваў цягнулі бабулі ў хустках і жанчынкі з дзеткамі. На лавачках на рынку, побач стэндаў з героямі УПА, таксама выседжвала ўжо „варта” — мужчыны сярэдняга ўзросту распівалі дабытую з-за пазухі пляшку. Вакол іх лавак бегалі звольненыя з прывязі пародзістыя сабакі. У паветры пахла смажанай цыбуляй. Пад уплывам раскошнай ляноты мне таксама захацелася дзе-небудзь прысесці, напіцца славутай на цэлы рэгіён мінералкі „Нафтусі”. Тым больш што з боку грэка-каталіцкай кафедры даносіліся боскія напевы і цэлы цэнтр горада напамінаў філармонію пад адкрытым небам. У Драгобычы працуе музычная акадэмія і некалькі мастацкіх школ ды цэнтраў для дзяцей і моладзі, таму ўсё трымалася толку. Хоць не — у паветры пахла знаёмым вар'яцтвам. Не памятаю дакладна як апынулася я ў гарадскім парку, размешчаным побач рынку і нашай гасцініцы. Усе лаўкі былі свабодныя ды атмасфера месца напамінала стары могільнік. Багаслужба, што даходзіла ад кафедры, тут гучала больш аскетычна, быццам дабытая з іншага часу і эпохі. Праз момант я адчула сябе як бязвольны герой твораў Брунана Шульца, які разумеў, што ўсё ўжо адбылося раней і таму актуальны кадр быў яму знаёмым паўторам. Аддыхаўшыся кіслародам сярод цёмна-зялёных паркавых елак, я прыкмеціла ў канцы парку гранітны карычневы помнік. Здалёк напамінаў сацрэалістычнага Леніна. Не, гэта быў стары знаёмы... Сцяпан Бандэра!

Упершыню гэты помнік я пабачыла яшчэ да Аранжавай рэвалюцыі, і спачатку здавалася што... тут заіснавала памылка. Восем гадоў назад помнік прамаўляў як жэст дзікага нацыяналізму. Сёння фігура байца ўжо не шакіравала, наадварот, яна здалася карыснай для сцэнарыя святкавання 70-годдзя УПА.



Месца дзе быў застрэлены Бруна Шульц

На галаве ў байца выседжвалі тоўстыя галубы, з-за чаго каменная постаць была крыху абкаканая. Сам Бандэра трымаў рукі зложаныя як да прычасця... і гэта здалося тэатральным блюзнерствам. Якраз з боку кафедры даляталі фрагменты „ Іжэ херувімы”...

* * *

Найгорш, што ў Драгобычы не хацелі прыкмеціць гадавін, звязаных з чалавекам, які расславіў іх горад у свеце. У гэтым годзе спаўняецца 120 гадавіна нараджэння літаратара і мастака Брунана Шульца, а таксама 70-ыя ўгодкі ад дня яго трагічнай смерці. Злачынства адбылося некалькі крокаў ад той лавачкі, дзе я прысела ў парку. На тратуары знаходзіцца дошка, якая на польскай, украінскай і габрэйскай мовах інфармуе пра здарэнне 19 лістапада 1942 года.



Сцяпан Бандэра

Пра смерць існуюць некалькі версій. Найбольш каларытная і заадно трагічная гісторыя апавядае пра парахункі паміж фашысцкімі афіцэрамі Ландаўам і Гінтэрам, якія ў рамках помсты адрэагавалі злосць на яўрэях. Бруна Шульц быў нявольнікам Ландаўа, садыста, які дзеля забавы любіў пастраляць да яўрэяў са свайго балкона. Такой ахвярай яго забавы стаў стаматолаг Лёва, які быў нявольнікам Гінтэра. Усхваляваны фашыст у рамках помсты застрэліў Ландавага яўрэя, значыць Брунана Шульца.

Іншая, больш верагодная версія, распавядае пра пагром, які адбыўся 19 лістапада. Бруна Шульц загінуў на вуліцы, сто метраў ад роднага дому. Праляжаў там два дні, пакуль не прыбралі яго санітарныя службы і пахавалі разам з 265 іншымі ахвярамі ў безыменай магіле на новым могільніку.

Паводле трэцяй версіі, мастак быў застрэлены на ўсходках пякарні, куды зайшоў па прыпас хлеба, з якім меў уцякаць ноччу ў Варшаву. Менавіта тут мела спасцігнуць яго куля раз'юшанага Гінтэра, які не ўмеў знайсці спакою пасля смерці свайго яўрэя Лёва.

Легендарныя сходы і будынак захаваліся да нашых дзён. На жаль, тут не было ніякага знаку, паметкі, таблічкі... У хлябны магазін „У Фросі” што і раз заходзілі людзі. Калі я спытала іх пра Брунана Шульца, прадаўшчыца адаслала мяне да згаданай ужо таблічкі на тратуары..

— От, штось прыдумалі ў той вашай Польшчы і цяпер не даюць мне спакою! — кінула яна ў адказ. — А тут жа працаваць трэба!

*(працяг будзе)*

## УВАГА КОНКУРС

### XV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча абʼяўляюць XV Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.** У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.

***Прынцыпы ўдзельніцтва***

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— **I група:** дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— **II група:** астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у чатырох экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — абʼёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: **Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84** з прыпіскай на канверце: XV Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

***Тэрміны***

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае **25 лістапада 2012г.** (вырашае дата паштовага штампа).

2. Вынікі конкурсу будуць абʼяўлены ў снежні 2012 г.

3. Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.

ISSN 0546-1960